# КРЫВІЯ

Выданьне беларускае нацыянальнае меншасьці ў Чэхіі

Культурна-асьветніцкі часопіс

№34-35 Сьнежань 2014



## ЗЬМЕСТ

# СКАРЫНІЯНА

Гэты нумар часопіса ў значнай ступені прысвечаны бадай адной самых знамянальных датаў у культурнай гістоыі Беларусі. 6 жніўня 1517 года была надрукаваная першая беларусая (беларускамоўная) кніга. У 2014 годзе мы будзем адзначаць пяцьсотгоддзе беларускага кнігадрукавання. Паўтысячы гадоў таму Францішкам Скарынам з Полацку былі надрукаваныя яго пераклады біблейскіх тэкстаў. Пачаткам пачатку беларускага кнігадруку лічыцца выхад у свет Псалтыра - біблейскай кнігі старазапаветнага цыклу. Месца выдання - сталіца Чэхіі - Прага. Скарынаўскую спадчыну вывучаюць ужо некалькі стагоддзяў. Узнікненне і развіццё беларускага кнігадрукавання адбылося ў часе надзвычайнага духоўнага ўздыму народа. У канцы XV – сярэдзіне XVII ст. у Беларусі шпарка развіваліся абарончае і культавае дойлідства, жывапіс, скульптура, мініяцюра, музыка і ўжытковае мастацтва. Неверагоднымі тэмпамі развівалася літаратура. У краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы ў XIV – першай палове XVII ст. была гісторыка-культурная эпоха Рэнесансу. Тады былі зробленыя важныя адкрыцці і вынаходкі ў розных галінах навукі і тэхнікі, створаныя выдатныя ўзоры мастацтва. Здзейсненае Іаганам Гутэнбергам у пачатку 1450-х гадоў у нямецкім Майнцы выданне лацінскамоўнай Бібліі служыць традыцыйнай кропкай адліку гісторыі кнігадрукавання ў Еўропе. Аднак, што тычыцца перакладаў на нацыянальныя мовы і друку біблейскіх тэкстаў, то па ўсёй Еўропе гэта перасьледавалася як каталіцкай так і праваслаўнай цэрквамі аж да смяротнай кары. І толькі ад пачатку XVI з распаўсюджваннем Пратэстантызму супраць каталіцкай царквы Біблія пачала распаўсюджвацца і на нацыянальных мовах у друкаваным выглядзе. Нямецкі (лютэраўскі) пераклад Бібліі быў закончаны ў 1546 г. Поўная Біблія на польскай мове выйшла ў 1561 г. На расейскай - толькі ў 1856 г.

## СКАРЫНА ЯК ПЕРАЕМНІК КУЛЬТУРНАЙ ЭСТАФЕТЫ БЕЛАРУСАЎ.

АДАМ КАЛІТА

Францішак Скарына выглядае як тытан адраджэння. Без шырокай сацыяльнай падтрымкі, без друкарска-рамеснай традыцыі, у варунках адмоўнага і варожага стаўлення да нацыянальных моваў з боку каталіцкай і праваслаўнай цэркваў ён змог перакласці найважнейшыя тэксты (біблейскія) свайго часу. Ён адзін з нямногіх разумеў выключную ролю беларускамоўнай Бібліі. Да таго ж ён яе яшчэ выпусціў і ў друкаваным выглядзе, што вельмі значна расшырыла кола карыстальнікаў і пасунула беларускую культуру ў разрад адных з перадавых.

Пісьменнасць з'яўляецца ці не найважнейшым адкрыццём старажытнасці. З узнікненнем пісьменнасці каля 7 тысячаў гадоў таму паскараецца развіццё чалавецтва, гісторыіі якога прыкладна 2,6 мільёнаў гадоў.

У І ст. нашай эры ў Палесціне, якая знаходзілася тады ў складзе Рымскай імперыі (сталіца Рым), на аснове іудзейскіх месіянскіх рухаў паводле Старога запавету ўзнікла Хрысціянства. Паступова новая рэлігія распаўсюдзілася па ўсёй імперыі. У 395 г. усходняя яе частка (Візантыя) пачала аддзяляцца і затым праіснавала да1453 г. Самі візантыйцы называлі сябе рымлянамі (як і рымляне Рымскай імперыі самі сябе) — па-грэчаску "рамеямі", а сваю дзяржаву "Рамейскай". Сталіцай Візантыі быў Канстанцінопаль, заснаваны імператарам Канстанцінам І у 324—330 гг. на месцы былой мегарскай калоніі Візантый. Адсюль і паходзіць назва гэтай шматнацыянальнай дзяржавы, якую ўвялі гуманісты пасля падзення імперыі. Дзяржаўнай мовай Візантыі ў 4-6 стст. была лацінская, з 7 ст. і да канца яе існавання — грэчаская. Канчаткова адбыўся падзел на Каталіцкую царкву на Захадзе з цэнтрам у Рыме і Праваслаўную на Ўсходзе з цэнтрам у Канстанцінопалі ў 1054г. У раннім Сярэднявеччы ў Заходняй Еўропе пісьмовай мовай была толькі лацінская, бо ў ёй датрымліваліся абраднасці Рымскай каталіцкай царквы. Першыя надпісы на нямецкай і англійскай мовах датуюцца VIII ст., на французскай - IX ст., на іспанскай, партугальскай і нарвежскай мовах - XII ст., на італьянскай,

шведскай, датскай, венгерскай і чэшскай мовах - XIII ст. У часы Скарыны лацінская мова поўнасцю панавала ў названых краінах асабліва ў царкоўным жыцці.

На беларускіх землях зараджэнне пісьменства і пазней развіццё нацыянальнай літаратуры непасрэдна звязана прыняццем хрысціянства ў X ст. паводле абраднасці Візантыйскай (грэчаскай) царквы. Выклікана было гэта надзённымі патрэбамі гістарычнага і культурнага развіцця. Браты-місіянеры Кірыл (Канстанцін ці Філосаф, 827—869, Рым) і Мяфодзій (Міхаіл; 815—885, Маравія) стварылі адмысловую азбуку і пераклалі на мову славянскага насельніцтва візантыйскага города Салонікі для богаслужэбных мэтаў 4 новазапаветныя біблейскія кнігі. Іх вучні ў Балгарыі працягвалі пераклады біблейскіх тэкстаў. Беларускае пісьменства ад зачатку абапіралася на багатыя гістарычныя традыцыі і фальклор, грэка-візантыйскую і рымска-лацінскую літаратуры. Арыгінальныя літаратурныя творы ўзнікалі ўслед за перакладнымі біблейскімі і дагматычнымі творамі. Напачатку свайго развіцця беларуская літаратура вызначалася традыцыяналізмам. За гэтым наследавалі пошук і эксперымент.

У Беларусі адкрытасць да культур блізкіх і далёкіх суседзяў, спрычыніліся да своесаблівай агламерацыі, а надалей узнікнення і развіцця свайго адметнага феномену. Раней пісьмовыя творы ствараліся рукамі вельмі малой колькасці адукаваных людзей, у асноўным з шэрагаў царкоўных інстытутаў. Напачатку выкарыстанне ў літаратурна-пісьмовай практыцы так званай царкоўнаславянскай мовы (мовы Кірыла і Мяфодзія) было дамінуючым. Пазней шырокай размаітасці беларускай літатаратуры яшчэ значна спрыяла суіснаванне лацінскай і польскай моў. У нейкія перыяды, бывала, што адна з плыняў пераважала. Гэта з поўным правам дазваляе лічыць побач з нацыянальнай мовай таксама і іх асноўнымі (нацыянальнымі) літаратурнымі мовамі беларускага прыгожага пісьменства тых часоў. Узнікненне, захаванне і росквіт на тэрыторыі былой (умоўна называнай цяпер) Кіеўскай Русі, пазней у Маскоўскай і Літоўскай так званай царкоўнаславянскай мовы вельмі дабратворна ўздзейнічала на ўдасканаленне нацыянальнай беларускай літаратуры на тэрыторыі Вялікакга Княства Літоўскага (Беларусі).

Старамакедонская (старабалгарская) мова, уведзеная Кірылам і Мяфодзіем у 862 г. у царкоўны ўжытак, паходзіць з паўднёваславянскіх дыялектаў. Салунскія браты апрацавалі яе літаратурна для перакладу літургічных тэкстаў. Гэта - кніжная, а не гутарковая мова. Яна адрознівалася ад народных моваў усходніх і паўднёвых славянаў. Мяфодзіева і Кірылава царкоўная мова сталася шырокай культурнай з’явай. Яна распаўсюдзілася і панавала вельмі доўга на разлеглых тэрыторыях славянаў: у заходніх славянаў (Маравія, Чэхія), паўднёвых - Балгарыя, частках Харватыі, у “чужароднай”- лацінскамоўнай Валахіі (Румынія). У апошняй мова Кірылы і Мяфодзія да сярэдзіны XVIII ст. заставался афіцыйнай мовай царквы і дзяржавы. Сучасны расейскі варыянт старамакедонскай (пад назвай царкоўнаславянскай) мовы як сінадальны скарыстоўваецца дагэтуль у літургіі Рускай праваслаўнай царквы. Руская літаратурная мова ў Расеі пачала інтэнсіўна пасоўваць старамакедонскую з дзяржаўнага ўжытку толькі ад XVIII ст. У суседняй ад Беларусі Польшы пачала ўзнікаць пісьменнасць у канцы X ст. у сувязі з прыняццем хрысціянства па рымскаму (лацінскаму) абраду. У цэрквах, навучальных і дзяржаўных установах карысталіся лацінскай мовай аж да XVII ст. – яна там панавала. Ад XIII ст. пачынаюць з’яўляцца першыя пісьмовыя помнікі на польскай мове. У 1513 годзе была надрукавана ў Кракаве першая кніга на польскай мове – “Духоўны рай” (зборнік малітваў). Пад уплывам найлепшых узораў старажытнарымскай літаратуры ў Польшчы і Беларусі ствараліся лацінскамоўныя шэдэўры. Ад уздзеяння лаціны польская пісьменнасць сапраўды квітнела, але на чужой мове. Тутака былі ў тыя часы ці не найлепшыя лаціністы таго часу. Поруч з Каралеўствам Польскім была дзяржава Вялікае Княства Літоўскае (Беларусь), дзе да пачатку XVII ст. ці не ўсюды (ва ўсіх сферах грамадскага жыцця) карысталіся беларускай мовай. Гэта быў своеасаблівы беларускі цуд. Пры чым, што амаль ва ўсіх тагачасных еўрапейскіх дзяржавах карысталіся лацінскаю моваю. У Масковіі ж – царкоўнаславянскай (старамакедонскай-старабалгарскай).

У часы Скарыны відавая і родава-жанравая сістэма арыгінальнай старабеларускай

літаратуры дастаткова разгалінаваная, а корпус твораў прыгожага пісьменства — колькасна і аб'ёмна надзвычай разнастайны. У старажытнай літаратуры Беларусі існуюць усе асноўныя роды і віды. Яна прадстаўлена эпічнымі жанрамі — апавядальнымі і апісальна-белетрызаванымі формамі, паэзіяй і публіцыстыкай. Лагічна тады, што беларусы сярод славянаў сталі аднымі з першых, хто пераклаў найважнейшую кнігу свайго часу – Біблію. Храналагічна беларусы былі другімі пасля Чэхаў. Першы пераклад Бібліі на беларускую мову зрабіў Францішак Скарына. Ён жа выдаў першую друкаваную беларускую кнігу. Ажыццявіў ён гэта ў сталіцы Чэхіі – Празе. Тут мы разгледзім перадумовы ўзнікнення першынца беларускага біблейскага перакладу і прычыны, што пабудзілі Скарыну надрукаваць найпершыя беларускія кнігі менавіта на чэшскай зямлі. Беларускі першадрукар, безумоўна, скарыстаўся капітальнымі чэшскімі перакладамі Бібліі на чэшскай мове, што мелі даўнюю традыцыю. Гэта і не дзіўна, бо менавіта чэхі першымі сярод славянаў пераклалі Біблію на нацыянальную мову і першымі ж рабілі шматлікія яе друкаваныя выданні.

КРАІНА, У ЯКОЙ НАРАДЗІЎСЯ І ЖЫЎ БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР Ф. СКАРЫНА З ПОЛАЦКУ

Цяперашняе найменне краіны – Беларусь –, замацаваўся за ёй канчаткова ўсяго толькі нейкіх сто гадоў таму. Найранейшыя нешматлікія пісьмовыя сведчанні, што дайшлі да нас, кажуць пра пісьмова пацверджанае існаванне дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі сучаснай Беларусі недзе ад IX ст. Бальшыня беларускіх гісторыкаў лічыць пачаткамі беларускай дзяржаўнасці Полацкае княства IX-XIV стст. Гэтая краіна мела складаныя стасункі з суседзямі і самым магутным усходнеславянскім княствам таго часу – Кіеўскім. У 1237-40-х гадах Кіеўскае княства было разгромлена Мангольскай імперыяй. Фактычна, у гэтыя ж гады на тэрыторыі Беларусі ўзнікла дзяржава Літва са сталіцай у Навагарадку. Шматлікія ўдзельныя ўсходнеславянскія княствы намагаліся падпарадкаваць сабе астатнія. Старажытная Літва прыкладна на працягу стагоддзя здолела рознымі спосабамі аб'яднаць у сваім складзе ўсе этнічныя беларускія, жамойцкія (так у тыя часы называлася сучасная краіна Летува), большасць украінскіх земляў і частку расейскіх. У 1392 г. Полацкае княства стала адміністрацыйнай адзінкай Літвы, захоўваючы пэўную самастойнасць. Такім чынам, даўней дзяржава беларусаў называлася Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае і іншыя – скарочана ВКЛ ці проста Літва. Гэтая краіна была адной з найбуйнейшых і і найуплывовейшых у XIII-XVIII стст. у Еўропе. Ядром-цэнтрам ВКЛ былі беларускія землі (6/10), дзе жыла большасць насельніцтва краіны. Уміждзяржаўных стасунках беларусаў называлі літвінамі. Такая ж была і саманазва. Усе зборы законаў старажытнай Літвы былі на беларускай мове: Вісліцкі статут 1423-1438 гадоў, Судзебнік Казіміра Ягайлавіча 1468 года, Статуты 1529, 1566 і 1588 гадоў, Трыбунал 1586 года. Статут ВКЛ – першы ў Еўропе звод законаў на нацыянальнай мове. Захаваўся архіў дакументаў ВКЛ на беларускай мове не ў адну сотню тамоў - Метрыка Вялікага Княства. У Статуце ВКЛ у раздзеле 4, артыкуле 1 спецыяльна ўзаконены статус беларускай мовы. Доўгі час яе называлі рускай альбо літоўскай; цяпер – старабеларускай. У старажытнай Літве-Беларусі ствараліся шматлікія перакладныя і арыгінальныя літаратурныя творы на старабеларускай мове.

Беларуская мова пачынаючы ад 18-га ст. патрапіла ў вельмі складаныя ўмовы для развіцця. Адбылося ўсё незаўважна. Большасць насельніцтва Беларусі аж да пачаткаў XX – гэта сяляне, якія не ўмелі чытаць і пісаць. З дзяржаўнага ўжытку беларуская мова выводзілася мова паступова. Урэшце, адукаваныя слаі насельніцтва адыйшлі не толькі ад роднай мовы, культуры але і адракліся ад сваёй беларускасці назваўшыся палякамі, а пазней - расейцамі. Беларуская палітычная эліта, чым далей, тым з большай пагардай ставілася да народа, які яе карміў, атаясамліваючы сябе з суседняй польскай культурай, а пазней - з расейскай. Біблія, перакладзеная і надрукаваная беларускім першадрукаром, значна паўплывала на культурнае развіццё Беларусі, Расеі і Украіны. Аднак, зважаючы на тагачаныя палітычныя перыпетыі, яе ўлыў мог бы быць нашмат большы, калі б умовы былі спрыяльнейшымі. У канцы XV ст. суседняя з ВКЛ дзяржава - Вялікае княства Маскоўскае - вызвалілася ад мангола-татарскага іга. Старажытныя Літва і Масковія стала ваявалі паміж сабою за панаванне над усімі ўсходнімі славянамі. Войны адбываліся ў 1492 – 1494, 1500 – 1503, 1507 – 1508, 1512 – 1522, 1534 – 1537 гг.

Адначасова Вялікае княства Літоўскае мусіла адбівацца ад набегаў крымскіх татараў. З 1474 па 1569 гг. крымскія татары зрабілі 75 нападаў на ВКЛ. Літва шукала саюзнай падтрымкі. У часе Лівонскай вайны (1558—1583) 1 ліпеня 1569 г. ВКЛ вымушана было заключыць Люблінскую унію з Польскім Каралеўствам. Польшча і Літва стварылі федэратыўнае аб'яднанне – Рэч Паспалітую. Гэта назва - калька ад лацінскага *res publica*. Аслабленая бясконцымі войнамі, Вялікая Літва паводле пагаднення аддала Польскаму Каралеўству Падляшша і амаль усю тэрыторыю Ўкраіны. У складзе ВКЛ засталіся, па сутнасці, толькі беларускія этнічныя землі - 9/10 тэрыторыі. На падставе пастановы саюзнага сойму Рэчы Паспалітай 1696 г. беларуская (літоўская) мова ў Вялікім княстве Літоўскім паволі пачала ў справаводстве а значыць і ў астатніх культурных сферах, замяняцца польскай. Як літвінны-беларусы маглі такое дапусціць? Караля польскага і вялікага князя літоўскага ў адной асобе ў Рэчы Паспалітай выбіралі на сойме. У 1587 г. на выбарчым сойме, дзе амаль не было прадстаўнікоў ВКЛ, кіраўніком Рэчы Паспалітай быў абраны Жыгімонт Ваза. Гэты дзяржаўны дзеяч ад 1592 г. стаў адначасова і Каралём Швецыі. Жыгімонт Ваза (1566-1632 гг.) быў шчырым прыхільнікам каталіцызму, з-за чаго шведскія дваране-пратэстанты на сойме і скінулі яго з трона ў 1599 г. Як валадар Рэчы Паспалітай Жыгімонт Ваза атачыў сябе езуітамі і чужаземцамі. З цягам часу, тыя, хто не належаў да каталіцкага веравызнання, фактычна не маглі займаць дзяржаўныя пасады і ўдзельнічаць у грамадскім жыцці. У цэрквах, навучальных і дзяржаўных установах Польскага Каралеўства ад узніку пісьменнасці карысталіся лацінскай мовай. У 1513 г. была надрукавана ў Кракаве першая кніга на польскай мове – “Духоўны рай” (зборнік малітваў). Але аж да XVII ст. лацінская мова панавала ва ўсіх сферах духоўнага жыцця Польшчы. Толькі час ад часу канцыляры скарыстоўвалі польскую мову у якасці дапаможнай, якая, аднак, не мела юрыдычнага статусу. Поруч жа, на ўсходзе, у саюзнай старажытнабеларускай дзяржаве ВКЛ карысталіся ва ўсіх сферах грамадскага і культурнага жыцця роднаснай беларускай мовай. У заходніх славянскіх суседзяў – чэхаў – у сувязі з Гусіцкімі войнамі нацыянальная мова таксама квітнела. Наагул жа, ва ўсёй Заходняй Еўропе пачалася ў XVI ст. Рэфармацыя каталіцкай царквы, адным з вынікаў якой быў пераклад Бібліі на народныя мовы і развіццё нацыянальных літаратур. Не трэба таму здзіўляцца, што польская, эліта, баючыся беларускай асіміляцыі, дабілася, каб дзяржаўнаю моваю Рэчы Паспалітай была польская.

## ВЫТОКІ ПЕРАКЛАДЧЫЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ СКАРЫНЫ

З развіццём у Еўропе кнігадрукавання ў другой палове XV ст. культурныя і палітычныя працэсы значна паскорыліся. Першым кнігадрукаром у Еўропе па праву лічыцца немец Ёган Гутэнберг (1397-1468). Заквітнелі нацыянальныя літаратуры. Што тычыцца беларускіх зямель, пачатак кнігадруку мае тут не толькі пазітыўныя, але і адмоўныя бакі. З пранікненнем Рэфармацыі на Беларусь вярхоўныя ўлады змагаліся не толькі з “ерассю” ў каталіцызме, але і з беларускай праваслаўнай.

Беларускі асветнік-першадрукар Францішак Скарына ў 1517-1519-?1520 гг. выдаў у чэшскай Празе 23 біблейскія кнігі Старога Запавету. Гэтаму папярэднічала яго перакладчыцкая праца. Біблія выдадзена на зразумелай мове для жыхароў яго Радзімы - Вялікага Княства Літоўскага., Рускага, Жамойцкага і іншых. Дзяржаўнаю моваю ВКЛ была беларуская. Тады яна называлася руская, літоўска-руская альбо літоўская, а цяпер – старабеларуская. Для большасці насельніцтва так званая руская мова была не толькі ўрадавай але і хатняй. У часы ВКЛ на Віленшчыне жыло пераважна беларускамоўнае насельніцтва. Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае – было, па сутнасці, беларускай дзяржавай. Яна існавала на тэрыторыі сучасных Беларусі, Украіны, Расеі і Літвы ў XIII-XVIII ст. Літвою тады называліся беларускія землі а Жамойцю сучасная тэрыторыя Летувіскай Рэспублікі. Пісьменнасць у Жамойтаў пачынала фармавацца толькі ад канца 14 стагоддзя. Першая іх друкаваная кніга - “Катэхізіс” 1547 г. Зборы законаў старажытнай Літвы выйшлі на беларускай мове і, як згадвалася раней, Статут ВКЛ быў першым ў Еўропе звод законаў на нацыянальнай мове. Да зафіксавання пісьмовага права на беларускіх землях панавала так званае звычаёвае права, якім ад старажытнасці рэгуляваліся ўсе праваадносіны. Захаваўся архіў дакументаў ВКЛ на беларускай мове не ў адну сотню тамоў

(больш чым 550) - Метрыка Вялікага Княства.

Асобная гутарка аб мове выданняў Францішка Скарыны будзе ніжэй. Як ужо было адзначана, дзяржаўнай, канцылярскай мовай ВКЛ была беларуская (старабеларуская-руская). Зразумела, што як цяпер, так і тады на канцылярскай мове гаварылі і пісалі толькі ў афіцыйных варунках. Гэта ў нейкай ступені адносіцца да свецкай, набажэнскай і асабліва літургічнай літаратуры. У часы Скарыны на старабеларускай пісаліся летапісы, хронікі, жыціі, вялася палеміка, перакладаліся аповесці. Зноў жа, трэба адзначыць, што гэта таксама не была гутарковая мова, але кніжная. Так і ў наш час. Мала хто выкарыстоўвае ў штодзённых стасунках чыста літаратурную, канцылярскую мову, а тым больш літургічную. Сучаснікі Скарыны ўспрымалі натуральна творы папярэдняй эпохі Сярэднявечча.

У XVI ст. на Беларусі чыталі пераважна рэлігійную літаратуру, напісаную на так званай царкоўнаславянскай мове беларускай і іншых рэдакцый. Вельмі шанаваліся ў той час рукапісы, пісаныя на пергаменце. Да новых твораў напісаных на паперы адносіліся з недаверам. Самай папулярнай кнігай быў Псалтыр. Па яго тэкстах не толькі спявалі хвалебныя песні да Бога, але і вучыліся чытаць-пісаць. З прыняццем хрысціянства ўсходнімі славянамі ў канцы Х стагоддзя тут распаўсюджваецца пісьменнаць на мове Кірыла (827-869 гг.) і Мяфодзія (815-885 гг.), т.б. на славенскай-старабаўгарскай ці старамакедонскай (царкоўнаславянскай-стараславянскай) аснове. Біблейскія літургічныя тэксты і іншая літаратура аднолькава ўжываліся і шанаваліся як усходнімі, так і паўднёвымі славянамі.

З'яўленне ж кнігадрукавання каласальна паскорыла культурныя і палітычныя працэсы. Кансерватыўнае грамадства ўспрымала першую друкаваную прадукцыю з недаверам. Духавенства ад самага пачатку на Беларусі і ў іншых краінах мела манаполію на адукацыю і на рэлігійную літаратуру. З атрыманнем гарадамі магдэбургскага самакіравання значна павялічылая колькасць людзей, што ўмелі чытаць. Узрос попыт на кнігі. Літаратура на царкоўнаславянскай (славенскай) мове успрымалася цяжка звычайным чалавекам. Як выглядае, кнігі Старога Запавету не былі надта распаўсюджаныя. Кнігадрук і шырокае тыражаванне атрымалі развіццё толькі бліжэй да канца XVI ст. Асноўная маса пісьмовай прадукцыі таго часу бытавала ў рукапісах. Папера і наагул кнігі каштавалі вельмі дорага. Праваслаўная і каталіцкая хрысціянскія ідэалогіі панавалі ў духоўнай сферы. Пераважная большасць літаратуры была на славенскай (старабаўгаркай) мове, а ў каталікоў - на лацінскай. З-за таго, што гэтыя манускрыпты былі створаны на мове, якая адрознівалася ад мясцовых, то паступова за адсутнасцю жывых носьбітаў "кніжнай" мовы, сталі развівацца літаратурныя мовы беларусаў, украінцаў і расейцаў. У Беларусі ад сярэдзіны ХІ стагоддзя было перапісана і перакладзена даволі значная колькасць помнікаў на царкоўнаславянскай (старамакедонскай) мове беларускай рэдакцыі. Многа стваралася і арыгінальных твораў на гэтай мове. Нават і найлепшыя тагачасныя знаўцы "кніжнай" мовы рабілі вялікае мноства "памылак", якія паказваюць з якой мясцовасці паходзіў стваральнік. Узорнымі беларускімі рукапісамі лічацца Тураўскае евангелле (XI ст.), Аршанскае евангелле (XII-XIII стст.), служэбнік Валаама Худынскага (канец XII - пачатак XIII ст.). Найбольш вядомыя беларускія прадстаўнікі асветы (праваслаўныя) старажытнага перыяду - Кірыла Тураўскі (1130-1182 гг.) і Ефрасіння Полацкая (?1110-1167 гг.).

На тэрыторыі Беларусі ў XV-XVI стст. мірна ўжываліся людзі розных веравызнанняў. Агульнай аўтарытэтнай духоўнай крыніцай для мусульман, іудзеяў і хрысціян у ВКЛ быў Стары Запавет. Канфесіі культурна ўзаемна ўзбагачаліся. У якасці прыкладу можна прывесці стварэнне беларусамі ўласнага біблейскага зводу, які дайшоў да нас у складзе віленскага зборніка XVI стагоддзя. Акадэмік Я. Ф. Карскі меркаваў, што гэты пераклад на тагачасную беларускую мову быў зроблены з дапамогай адукаваных яўрэяў з іх Бібліі ці прыхільнікамі "ерасі жыдоўствуючых". Старажытная богаслужэбная літаратура – гэта заблытанае пытанне. Так, Кірыл і Мяфодзій пераклалі некаторыя біблейскія тэксты для патрэбаў царквы. Захавалася іх даволі нязначная колькасць найменняў. Магчыма, іх і не было больш. Вось прыкладны спіс царкоўнайнай рукапіснай літаратуры XII - XV стст. "на мове Кірыла і Мяфодзія": Апакаліпсіс, Евангеллі і Апостал, Мінеі, Трыодзі, Ірмалогіі, Актоіхі, Параклітыкі, Служэбнікі, Трэбнікі,

Часасловы, богаслужэбныя зборнікі, Псалтыры, рукапісы Парэмейніка, тлумачальныя кнігі Старога Запавету (Палеі). Важна ўдакладніць, што сярод іх няма Старога Запавету ў сучаным сэнсе. Біблія якая быццам бы была прывезена калісці вялікаму князю кіеўскаму Ўладзіміру Святаслававічу (948-1015? гг.) не захавалася. Магчыма, што яе поўны пераклад і не існаваў аж да XVI стагоддзя. Зразумела, што Псалтыр – гэта частка Старога Запавету. Яго ж урыўкі былі ў зборніках (Парэмейнік і Палея). У апошнім была яшчэ гістарычная і храналагічная рэдакцыі.

Царква ў мінуласці адыгрывала аграмадную ролю ў жыцці краінаў і іх культураў. Ёсць істотная розніца паміж праваслаўнымі і каталіцкімі краінамі. Мёртвая лацінская мова, якой карысталіся ў богаслужэнні каталікі, абсалютна незразумелая не толькі звычайным вернікам, але ў большасці і служыцелям культу. Асабліва гэта датычылася нераманскіх народаў. Адукаваных людзей у мінуласці было мала. Мёртвая славенская (старамакедонская) мова ужо ў XV – XVI стст. была не нашмат зразумелейшай для славянаў, чым лацінская для былых жыхароў Рымскай імперыі. Царкоўнаславянскаю-славенскаю (старабаўгарскаю) моваю ў літургіі дагэтуль карыстаецца, напрыклад, Руская Праваслаўная царква. Лаціну дагэтуль таксама, часам, чуваць у каталіцкіх касцёлах. Шматвекавое храмавае бытаванне славенскай-старамакедонскай мовы на праваслаўных прасторах тлумачыцца нешматлікасцю людзей якія ўмелі чытаць, дарагавізнаю кніжнай прадукцыі, кансерватыўнасцю царкоўнай іерархіі, блізкароднаснасцю і распрацаванасцю старабаўгарскай (старамакедонскай) мовы і галоўнае дыктатам царквы ў сферы адукацыі і дзяржаўных справах. Кніг для набажэнскіх мэтаў у мінуласці не хапала. Галоўнай праблемай было хаджэнне розных рэдакцый. У пэўных выпадках поўнасцю бракавалі некаторыя біблейскія кнігі. Да нашага часу не дайшоў аніводзін экзэмпляр біблейскага тэксту з першапачатковым перакладам Кірыла і Мяфодзія.

Клірыкі непакоіліся з-за неўпарадкаванасці набажэнскай літаратуры. Пры перапісах кніг на "славенскай" мове на працягу стагоддзяў нагрувасцілася вялізная колькасць памылак. Царкоўнікі агрэсіўна ставілася да якой заўгодна адаптацыі "ўзорнай" мовы" – гэта значыць да перакладаў на так званую простую ці, як тады яе называлі, рускую мову. Практычная адсутнасць у той час даведнікаў, слоўнікаў, граматыкі мовы Кірыла і Мяфодзія яшчэ больш ускладняла становішча. Рымскае хрысціянства з яго лацінскаю моваю таксама намагалася пазбавіцца разнабою біблейскіх тэкстаў. У каталіцкім свеце скарыстоўвалі некалькі лацінскіх перакладаў біблейскіх тэкстаў.

Першы расейскі славенскамоўны кодэкс біблейскіх кніг узнік у канцы XV ст. Маецца на ўвазе Біблія як мы яе ведаем цяпер - Стары і Новы Запавет. Перад гэтым асобныя біблейскія кнігі на старамакедонскай мове не былі сабраныя ў адным зборніку. Лічыцца, што пад кіраўніцтвам япіскапа Генадзя Наўгародскага (141?-1505 гг.) быў праведзены пошук па манастырах і храмах кніг Бібліі ўсіх рэдакцый. Магчыма, скарыстаныя біблейскія тэксты грэкаў і паўднёвых славянаў. Зроблена гэта было, каб кірыла-мяфодзіеўскія пераклады скласці ў адну кнігу – Біблію ў сучасным разуменні. Частку перакладаў знайсці не ўдалося і іх зрабілі з каталіцкай лацінскамоўнай Бібліі (Вульгаты). Да апошніх належаць кнігі: 1—2 Параліпаменон, 1—3 Ездры, Нееміі, Тавіта, Юдзіф, Прамудрасці Саламонавай, 1-2 Макавеяў, малітва Манасія, ды асобныя раздзелы кніг прарокаў Ераміі і Езекіля і Есфіры. Адначасова з біблейскімі кнігамі перакладзеныя і адпаведныя прадмовы святога Іераніма (342 – 419 гг.), каментарыі да асобных паняццяў. Парадак кніг, размеркаванне па главах Генадзіеўскай Бібліі 1499 г. ўзяты з Вульгаты. Гэта захавана і ў сучаснай расейскамоўнай Бібліі. Апісаная падзея ёсць супярэчлівай. Кнігі Старога Запавету не мелі шырокага распаўсюджання. Куды падзеліся знойдзеныя старыя рукапісы пасля іх скарыстання ў Ноўгарадзе? Якія менавіта першакрыніцы мелі ў сябе рэдактары і перакладчыкі?

Не мінуць тутака і разгляду тагачасных палітычных падзеяў. Паводле некаторых расейскіх гісторыкаў, акрамя існавання ў сярэднявечныя перыяды розных удзельных княстваў, на самай справе, былі сталыя і самыя моцныя тры ўсходнеславянскія дзяржавы. У кожнай з гэтых дзяржаў быў пастаўлены Сафійскі сабор па ўзору канстанцінопальскага – гэта значыць як сімвал іх палітычнай і культурнай незалежнасці. Кіеўскае княства ўзнікла ў IX ст. і праіснавала да мангольскага нашэсця (1237-1240 гг.). Полацкая дзяржава як самастойная

існавала ад канца IX ст. У 1307 г. Полацкае княства - калыска беларускай дзяржаўнасці на правах аўтаноміі ўвайшло ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Наўгародская зямля з яе вечавым спосабам самакіравання існавала ад 1136 г. У 1478 г. яе захапіла Вялікае Княства Маскоўскае. Перад гэтым у сярэдзіне XV ст. ў Ноўгарадзе быццам бы ўзнікла так званая ерась жыдоўствуючых, характэрнай рысай якой было спаўненне некаторых іудзейскіх прадпісанняў і абрадаў. Як сцвярджалі іх нядобразычліўцы, жыдоўствуючыя адвяргалі боскасць Ісуса Хрыста (лічылі яго прарокам) і пакланяліся толькі Богу. Лічыцца, што прапаведнік гэтай ерасі Схарыя Жыдовін, прыбыў у Ноўгарад з Кіева ў свіце літоўскага князя Міхаіла Алелькавіча ў 1471 г. Масква падтрымлівала гэтую плынь у суседняй дзяржаве, а пасля скарысталася яе падтрымкай для анексіі Наўгародскай рэспублікі. Адразу па акупацыі "жыдоўствуючыя" наўгародскія свяшчэнікі Аляксей і Дзяніс былі прызначаны вялікім князем маскоўскім Іванам III Васільевічам (1440-1505 гг.) ў 1480 г. пратапапамі ў Успенскі і Архангельскі саборы Масквы. Ад 1478 года наўгародскі архіепіскап Генадзь даносіў маскоўскаму валадару аб адкрытай ім ерасі і патрабаваў іх "жечи и вешати". Улады ніякіх асаблівых рэпрэсій не прадпрымалі. Аж у 1504 г. шляхам доўгіх палацавых інтрыгаў праціўнікам удалося спаліць некаторых "ерэтыкоў". У тым жа годзе Генадзя змясцілі з пасады і саслалі. Неўзабаве ён памёр. Усё выглядае неяк нелагічна. З аднаго боку, у Вялікім Княстве Маскоўскім старазапаветныя кнігі не былі папулярныя, аб чым сведчыць і тое, што да нашага часу яны не дайшлі (не захаваліся). З другога боку створана камісія на чале з ярым праціўнікам "жыдоўскага" Старога Запавету для пошуку, рэдагавання, упарадкавання і пашырэння старазапаветных і новазаветных кніг. Яшчэ пытанні. На Захадзе поўны кодэкс Бібліі (напр. на грэчаскай мове Септуагінта, на лацінскай "Вульгата") існавалі прыкладна ад IV стагоддзя. Кнігі Бібліі раней не дзяліліся на главы і вершы. Звыклы цяпер парадак прыпісваюць заслузе Кентэнберыйскага япіскапа Стэфана Лэнгтона (?-1228). Руская праваслаўная царква ставілася да мусульман, іудзеяў, каталікоў вельмі негатыўна. У састаўленні ж, рэдагаванні і ўпарадкаванні Генадзіеўскай Бібліі браў удзел святр-дамініканец Веніямін. У наўгародскай Бібліі сустракаюцца заходнеславянскія словы. Магчыма, што Веніямін меў адносіны да Чэхіі. На карысць гэтага кажуць асаблівасці транскрыбіравання ўласных імёнаў перакладзеных з лацінскай мовы.

Адзінае, што магло б "апраўдаць" у дадзеным выпадку супрацоўніцтва праваслаўных з "варожай" каталіцкай царквою - гэта тое, што Веніямін належаў да, так бы мовіць, інквізітарскага ордэну Генадзь Наўгародскі (1410 – 1505 гг.) выказваўся з захапленнем аб забойствах іспанскай інквізіцыі таго часу і аб выгнанні адтуль усіх яўрэяў у 1492 г. Даследчыца В. А. Рамаданоўская лічыць, што пры рэдагаванні і перакладзе Генадзіеўскай Бібліі магла быць скарыстана і чэшскамоўная Біблія выдадзеная ў Празе ў 1488 г. Не стаючыя (не знойдзеныя) біблейскія кнігі наўгародская камісія пераклала з лацінскай мовы. В. А. Рамаданоўская гэта пераканаўча даводзіць у згаданай мною яе публікацыі. Перакладчыкі прытрымліваліся калькіраванага спосабу. Вынікам было тое, што тэкст на старамакедонскай-славенскай мове стаўся ні вельмі аўтэнтычным з-за строгага следавання лацінскаму арыгіналу. Тлумачэнні рэдактары палічылі не абавязковым перакладаць слова ў слова. Каментары і заўвагі да Бібліі пісаліся толькі паводле стваральніка Вульгаты Іераніма Блажэнага (342-419?420 гг.) і французскага багаслова Мікалая Лірынскага (1270-1349 гг.). Камісія кіравалася на "сваю" праваслаўную аўдыторыю.

Біблейскія кнігі 1517-1519 гг. Францішка Скарыны, як і Генадзеўская Біблія 1499 г. таксама маюць прадмовы і каментары. Ёсць у іх багемізмы, адчуваецца ўплыў лацінскай мовы. Аб уздзеянні на пераклад Скарыны чэшскай Венецыянскай Бібліі 1506 г., Генадзеўскай 1499 г. і Вульгаты (пач. V ст.) напісана шмат. Факты гавораць аб тым, што беларуская пісьменнасць была ў XV-XVI стст. на вельмі высокім узроўні. У пэўным сэнсе наперадзе Масковіі. Унікальнае шматнацыянальнае і шматканфесійнае асяроддзе, эканамічны і культурны росквіт ВКЛ паспрыялі з'яўленню самай першай на прасторах усходніх славян перакладзенай на нацыянальную мову надрукаванай Бібліі. Невядомыя, праўда, дакладныя крыніцы, якія паслужылі ўзорам для перакладу Францішку Скарыну Пакуль гэтая праблема застаецца адкрытай. Бясспрэчна толькі тое, што лацінская, чэшская і старамакедонскія мовы паўплывалі

на пераклад першыніцы беларукага кнігадруку.

Больш развітое нетаталітарнае Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае пагражала культурнай, эканамічнай і вайсковай экспансіяй суседняму Вялікаму Княству Маскоўскаму. У XIV-XVI ст. ВКЛ - адна з найбольшых і ўплывовейшых дзяржаваў у Еўропе. У 1480 годзе Масковія пазбавілася залежнасці ад мангола-татарскіх ханаў. Яна пачала ўзмацняцца і таксама стала прэтэндаваць на валадаранне над усімі ўсходнімі славянамі. Да XVI стагодздзя Масковія была можна сказаць у заняпадзе, а ў Беларусі ж культура квітнела. У культавых і іншых установах ВКЛ перапісваліся і ствараліся шматлікія арыгінальныя творы. З развіццём кнігадрукавання Літва-Беларусь стала сапраўдным манапалістам у гэтай галіне на тэрыторыі ўсходніх славян і часткова іншых праваслаўных народаў. Добрым сведчаннем гэтаму ёсць друкарская прадукцыя распаўсюджваемая паслядоўнікамі Скарыны. Паводле падлікаў Юрыя Лабынцава наклад беларускіх выданняў да 1596 года ў дзесяць разоў перавышаў агульны наклад расейскіх. Беларускія рукапісныя а пасля і друкаваныя выданні шырока распаўсюджваліся на прасторах усіх праваслаўных славянскіх народаў.

Праваслаўе ў старажытнай Беларусі (і ў складзе ВКЛ) з'яўлялася найбольш распаўсюджанай рэлігіяй. Праваслаўныя мітраполіі ва ўсходніх славянаў пад юрысдыкцыяй Канстанцінопальскай (Візантыйскай) праваслаўнай царквы ад заснаваньня Кіеўскай мітраполіі ў канцы X стагодздзя. На тэрыторыі Беларусі Полацкая епархія відаць створана аж перад 992 годам - адразу пасля прыняцця хрысціянства, ці аднвчасова з Тураўскай - у 1005 годзе. Прынамсі, гэта мусіла адбыцца да пэўнага адасаблення Полацкай зямлі ад Кіева, відаць яшчэ пры кіеўскім князі Уладзіміры Святаславічу (? 960 -1015 гг.). Полацкая епархія ахоплівала вялікія абшары, у т.л. Верхняе Паволжа (да 1270 г.), магчыма, Смаленскую зямлю (да 1060—1070-ых гг.). У 1300-1316 гг. была заснаваная Літоўская (беларуская) мітраполія ў тагачаснай сталіцы Наваградку (1240-1323 гг.), падпарадкаваная Канстанцінопалю. Кіраўніцтва праваслаўнай царквою ў Вялікім княстве Літоўскім здзяйснялася ў рамках мітраполіі, што мела ў розныя часы назвы: Літоўскай і малай Русі, Кіеўскай, Літоўскай і ўсёй Русі, Кіеўскай і ўсёй Русі.

Мітраполія знаходзілася ў кананічнай уладзе мітрапаліта і прадугледжвала некалькі епархій, аб'яднаных у акругу. У праваслаўі існавала трохступенная структура арганізацыі: патрыярхат – мітраполія – епархія. Кіеўская мітраполія да 1458 г. падпарадкоўвалася Канстанцінопальскаму патрыярхату (Візантыя). Яе ўлада распаўсюджвалася на праваслаўных Вялікага княства Літоўскага, Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Маскоўскага – гэта значыць на цяперашніх расейцаў, украінцаў і беларусаў. У 1299 г. рэзідэнцыя кіеўскага мітрапаліта была перанесена ва Ўладзімір-на-Клязьме, затым у Маскву (1325 г.). Перанос кафедры быў зацверджаны канстанцінопальскім патрыяршым Сінодам толькі ў 1355 г. Кіеўская мітраполія ў 1458 г. раздзялілася на дзве. Адна з іх мела кафедру ў сталіцы ВКЛ – Вільні, якая стала сталіцай ВКЛ у 1323 г. Другая была ў Маскве, дзе праваслаўе было дзяржаўная рэлігія. У 1461 г. Маскоўскі мітрапаліт Феадосій (Бывальцаў) тытулаваў сам сябе Мітрапалітам Кіеўскім і ўсёй Русі. Масковія абвесціла сябе правапераемніцай палай у 1453г. Візантыйскай імперыі. У сваю чаргу, Літоўская (беларуская) мітраполія з кафедрай у Вільні таксама называлася з 1458 году Кіеўскай і ўсёй Русі. Як бачым, праваслаўныя мітраполіі дзвюх суседніх дзяржаваў афіцыйна мелі аднолькавую назву - Кіеўскай і ўсёй Русі. Адрознівалі іх у стасунках – Маскоўская і Літоўска-Наваградская. Барацьба за назву Русь ішла і паміж дзяржавамі – Маскоўскай дзяржавай (Русь Маскоўская) і Вялікім Княствам Літоўскім Рускім і Жамойцкім (Русь Літоўская). Вялікі князь Маскоўскі Іван III (1440-1505 гг.) тытулаваў сябе Гаспадаром Вялікай, Малой і Белай Русі. Масква паступова адваёўвала сабе ў ВКЛ тэрыторыі. Войны паміж імі ў часы Скарыны мелі месца ў 1487-1494 гг., 1500-1503 гг., 1507-1508 гг., 1512-1522 гг., 1534-1537 гг. А яшчэ ж былі сутычкі і з іншымі суседзямі. Ад сярэдзіны XV ст. ў Маскоўскай дзяржаве ўсталявалася самадзяржаўе. Каб лепш зразумець тэндэнцыю заглянем трохі наперад. Чарговы маскоўскі валадар Іван IV Васільевіч (1530-1584 гг.) у 1547 г. сам сябе абвесціў царом, што было незаконна. Канстанцінопальскі патрыярх прызнаў тытул толькі ў 1558 г.

Чаму так падрабязна аб царкоўнай іерархіі і палітыцы? Справа ў тым, што, як было адзначана, вельмі доўга славенская мова ўжывалася ва ўсіх славянскіх праваслаўных краінах і Румыніі. Тэксты ўзаемна пазычаліся і капіяваліся ў царкоўных установах. Вялікае княства Літоўскае развівалася вольна. У Полацку, Тураве, Вільні і іншых духоўных цэнтрах захоўваліся і перапісваліся шмат старажытных манускрыптаў, стваралася арыгінальная літаратура. Тут у сувязі з адносна верацярпімай дзяржаўнай палітыкай, бурным развіццём беларускага пісьменства і шэрагам іншых прычын народная мова інтэнсіўна пранікала ў рэлігійную літаратуру. Гэта адрознівала ВКЛ ад Масковіі, дзе гэты працэс быў павольнейшы. Зразумелы тады феномен скарынаўскага перакладу біблейскіх кніг і іх друк. Пазней са старажытнай Літвы кнігадрукаванне распаўсюдзілася ў Масковію. Дзейнасць першадрукароў Расеі і Ўкраіны Івана Фёдаравіча (? 1520-1583 гг.) і Пятра Мсціслаўца (? – 1577 гг.), складальнікаў першых граматык Мялеція Сматрыцкага (1577-1579?-1572 гг.) і Лаўрэнція Зізанія (1570?-1633? гг.) ды іншых знакамітых усходнеславянскіх асветнікаў выходзіць з Вялікага Княства Літоўскага. Гэта невыпадкова, бо тут была непарушная сталая спрыяльная культурная традыцыя ад самага зараджэння пісьменнасці ва ўсходніх славянаў.

Да 1795 г. Расейская імперыя захапіла землі ўсіх усходніх славянаў. Аб росквіце беларускай і украінскай культур у складзе ВКЛ "забылі". Расейскі савецкі гісторык М. М. Пакроўскі (1868-1932 гг.) сцвярджаў, што гісторыя – гэта палітыка, перакуленая ў мінуласць. Пачынаючы ад капітальнага даследавання скарынаўскай спадчыны П. У. Уладзіміравым ды і раней, феномен беларускіх біблейскіх тэкстаў разглядаўся ў рэчышчы польскага ці чэшскага ўплыву. У большасці ж расейскага. Уласна царкоўнаславянскага (славенскага), бо толькі ў 1856 г. выйшла поўная Біблія ў перакладзе на расейскую мову. Дзелавая пісьменнасць, літаратура ВКЛ і наагул мова беларусаў аж да 1919 г. не разглядалася як самастойная. Маўляў, гэта недаразвіты дыялект расейскай мовы. Пытанне беларускай рэлігійнай літаратуры сапраўды неадназначнае. Біблейскія тэксты на жывой беларускай мове аж да нашага часу не атрымалі шырокага распаўсюджання. Славенская-царкоўнаславянская (старамакедонская) мова стала лічыцца сакральнай-недатыкальнай. Подзвігам выглядае спроба Францішка Скарыны перакласці Біблію. Ён не належаў да царкоўнай іерархіі і рызыкаваў бы жыццём, каб не быў грамадзянінам талерантнай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага. У Заходняй Еўропе ў часы Скарыны ўзнікла Рэфармацыя каталіцкай царквы. Адным з вынікаў яе было распаўсюджванне Бібліі на народных мовах. У 1539 г. выйшаў поўны нямецкамоўны пераклад Бібліі Марціна Лютэра (1483-1546 гг.) Напрыклад, рэфарматар-чэх Ян Гус (1369-1514 гг.) быў спалены царкоўнікамі на вогнішчы. У Масковіі "ерэтыкоў" каралі не менш жорстка.

Скарына ва ўсіх сваіх выданнях называе сваю мову "про́стай рускай" (гэта значыць беларускай) адрозніваючы яе ад славенскай. І нават у Псалтыры, які меў быць узорным славенскамоўным выданнем: "Я, Францишек, Скоринин сын с Полоцька, в лекарскых науках доктор повелел есми Псалтырю тиснути рускыми словами, а словенскым языком…" Прызначаў беларускі першавыдавец свае пераклады для "людзей посполитых" (про́стых). "К пожиткоу посполитого доброго. Наиболеи с тое причины, иже мя милостивый Бог с того языка на свет пустил.." Расейкая (славенскамоўная) Генадзеўская Біблія 1499 г. паважаецца за кананічную. Можна зразумець расейскіх навукоўцаў, якія не прызнавалі аўтэнтычнасці беларускай мовы і перабольшвалі ўплывы на пераклад старазапаведных тэкстаў Скарыны. Для іх расейская і славенская (царкоўнаславянская) мовы былі ўзорнымі, а беларуска-літоўская ўяўлялася сапсаванаю пад польскім (чэшскім) уплывам расейскаю. Расейская мова пры сваім фармаванні запазычыла вялізныя пласты з сакральнай славенскай мовы, але ніхто не аспрэчвае яе самастойнасць. Многія ж беларускія мовазнаўцы аж да нашага часу не вызначыліся да канца ў азначэнні мовы Скарыны. Так С. Я. Рапацэвіч вельмі парабяза разгледзеў сінтаксіс Бібліі Скарыны. Калі лічыць сінтаксіс асновай мовы, Скарына адназначна зрабіў арыгінальны беларускі пераклад. Уплыў старабалгарызмаў не супярэчыць гэтаму. У большай ці меншай ступені ўся старажытнабеларуская літаратура пад уплывам гэтай добра ўнармаванай мовы. Беларуская ж мова была тады ў пачатку шляху. Мова царкоўных установаў заўсёды была спецыфічная. Не мог Скарына ды не могуць і цяпер працаўнікі культаў гаварыць з

вернікамі на мове вуліцы. Беларускі асветнік намагаўся свой пераклад зрабіць зразумелым “кожнаму” і дасягнуў гэтага не дэсакралізуючы мову. Атрымалася нешта накшталт планавай міжславянскай натуральнай, але безумоўна беларускай мовы. Аб удаласці яго перакладу сведчыць і тое што ў першай друкаванай расейскай (славенскамоўнай) Бібліі 1581 г. (Астрог. Украіна) Іван Фёдаравіч скарыстаўся яго досведам. А таксама распаўсюджанасць яго перакладаў на Украіне, у Расеі і іншых краях. Як ужо было адзначана, Генадзеўская Біблія 1499 г. была сама па сабе створана пад уздзеяннем лацінскамоўнай Бібліі ды і іншых. Уплыў чэшскамоўнй Бібліі (Пражскай -1488 г.) на пераклад апошняй таксама мог быць. Чэхі адны з першых (ад XIII-XIV ст.) сярод славянаў сталі перакладаць біблейскія тэксты на народную мову. Усе яны рабіліся з лацінскамоўнай Вульгаты. Чэшскі нацыянальны пераклад з аўтэнтычных біблейскіх моваў (грэчаскай і старажытнаяўрэйскай) - Біблія Краліцкая (*Bible kralická*) 1579-1588 гг.

Старамакедонская (славенская) мова добра распрацаваная але мёртвая. Для ўсходніх славянаў яна ад пачатку архаічная. Пэўная агульнаславянская лексіка больш-менш успрымалася, але сінтаксіс не. Апошні ж з’яўляецца падмуркам любой мовы, нават штучнай. Скарына ў сваіх перакладах пазбегнуў “цяжкіх” славенскіх-старабаўгарскіх сінтаксічных канструкцый. Па традыцыі беларускі асветнік захаваў прыкметы старамакедонскай (старабаўгарскай) мовы. Ад таго ж, што ў сучаснай расейскай мове вельмі шмат “старaславянізмаў”, ніхто не называе яе царкоўнаславянскай мовай рускай рэдакцыі. Што да лексікі, то паўстае пытанне, як “падзяліць” паводле нацыянальнай прыкметы агульнаславянскую лексіку - “маладую” (непісьмовую перад тым) мову і зафіксаванную пісьмова раней? Заўвагі А. І. Жураўскага аб прымяненні працэнтных адносін у вызначэнні прыналежнасці выдання да той ці іншай мовы ёсць непрадуктыўнымі. Старая беларуская пісьменнасць, як і ўсе астатнія славянскія, захоўвала некаторыя рысы мовы Кірыла і Мяфодзія, бо на ёй сталі пісаць найраней. Гэта ж не дае апошняй права на першароднасць (першакрыніцу). Толькі на першы погляд справа гэта ёсць яснай. Уплыў не мог быць толькі аднастароні. На мёртвую мову быццам бы ўздзейнічаць немагчыма. Ды гэта магло быць у яе дапісьмовы перыяд. Судзіць жа аб жывой мове толькі па яе пазнейшай графічнай перадачы не выпадае. Даследчык Ханс Ротэ, мне падаецца, кідаецца ў адносінах да мовы беларускага асветніка ў процілеглы ад расейскага бок: “Скарына ў вельмі вялікай колькасці выпадкаў амаль усюды следаваў у форме мовы і значэнні слова лацінскай традыцыі, якая ясна адхіляецца ад грэчаска-царкоўна-славянскай.” Тым не менш , нават, “чыста” славенскамоўнае скарынаўскае выданне “Апостала” ён характарызуе як беларускае : “Скарына скампіляваў свой тэкст з царкоўна-славянскай і чэшскай крыніцаў.... параўноўваў іх і ствараў з іх свой тэкст. Гэта быў яго пераклад.” Падобную думку выказала ў сваёй працы і Запольская Н. Н. Скарына дасягнуў таго што біблейскія кнігі сталі зразумелыя “простаму” беларускаму чалавеку. Тое што яны аказаліся зразумелымі ўсім усходнім славянам гаворыць аб тым, што ён проста бліскуча справіўся з пастаўленай мэтай. Цяпер цэлыя калектывы працуюць над стварэннем планавых-міжславянскіх моў. Можа Кірыл і Мяфодзій некалі і стварылі панславісцкую мову. І яна сваю ролю добра выконвала доўга. Скарына быў у сваёй справе першапраходцам. Было б дзіўна каб ён не скарыстаўся культурнай спадчынай папярэдніх пакаленняў. Тым больш у такой важнай галіне як рэлігія з яе сакральнай старамакедонскай мовай. Славенскі моўны пласт у перакладзе Скарыны правамерны як і вопыт чэшскіх перакладаў, аднак беларуская стыхія ў ім безумоўна пераважае. Мікола Гусоўскі пісаў на лацінскай ды гэта не проста лацінскамоўны творца але ў першую чаргу беларускі. Наўрад ці старажытныя лаціняне прызналі б яго безумоўна сваім. У Беларусі ў часы Скарыны была даволі развітая літаратурная традыцыя (кірылічная і лацінскамоўная). Беларускі першавыдавец магчыма валодаў не толькі лацінскай, але і старагрэчаскай і стараяўрэйскай – аўтэнтычнымі біблейскімі мовамі. На карысць гэтага гаворыць найлепшая тагачасная адукацыя якую ён атрымаў і тлумачэнне ім паняццяў з названых моваў. Лацінізмы, чэхізмы, царкоўнаславянізмы ў творах Скарыны ў рамках тагачаснай беларускай пісьменнасці. Такім чынам, уплыў Генадзіеўскай Бібліі 1499 г. на скарынаўскую ў любым выпадку мог быць вельмі адносны калі не ёсць спрэчны.

*Працяг артыкулу ў наступным нумары.*

# ЧАМУ БЕЛАРУСЫ ПЕРАСТАЛІ ГАВАРЫЦЬ НА РОДНАЙ МОВЕ

АДАМ КАЛІТА

Каб уцяміць чаму у сучаснай Беларусі адбылася русіфікацыя, чаму беларусы адракліся ад роднай мовы і культуры, патрэбна зазірнуць у яе мінуўшчыну. Гісторыя засялення беларускай зямлі сягае ў глыбокую даўніну - 100-40 тыс. г. да н.э. (Загорульский 1996) Працэс жа самаідэнтыфікацыі беларусаў, як нацыі, яе моўнай адметнасці не скончыўся аж да нашага часу. Прычыны пытання вельмі разматыя і складаныя.

Думаецца, гэта ідзе ўжо ад самой назвы краіны. Цяперашняе найменне краіны – Беларусь, замацавалася (было навязана расейцамі) за ёй канчаткова ўсяго толькі нейкіх сто гадоў таму. Рускія ідэолагі назвалі нас беларусамі каб сцвярджаць, што мы такія ж рускія як і яны. Дайшоўшыя да нас пісьмовыя сведчанні аб дзяржаўных утварэннях на тэрыторыі Беларусі нешматлікія. Замежных пісьмовых крыніцаў таксама мала. Па сутнасці, усе яны неадназначныя (заангажаваныя).

Беларускія гісторыкі лічыць пачаткамі беларускай дзяржаўнасці Полацкае княства IX-XIV стст. ( Гісторыя Беларусі 2007) Наша краіна мела заўсёды цесныя стасункі з суседзямі Самым магутным усходнеславянскім княствам Сярэднявечча лічыцца – Кіеўскае (суседняе Полацку).

Расейскія шавіністы выдумалі існаванне міфічнай Кіеўскай Русі. Быццам бы існавала ў Сярэднія вякі ўсходнеславянская імперыя. Яны сцвярджаюць, што гэта была руская дзяржава. У 1237-40-х гадах Кіеўскае княства было разгромлена Мангольскай імперыяй. У тыя ж часы на тэрыторыі Беларусі ўзнікла яшчэ адна дзяржава Літва. Яе сталіцай ад пачатку быў Наваградак (сучасны раённы цэнтр Навагрудак). Удзельныя ўсходнеславянскія княствы стала ваявалі паміж сабою. Старажытная Літва на працягу двух стагоддзяў аб'яднала ўсе этнічныя беларускія землі. Сучасная тэрыторыя Літоўскай Рэспублікі называлася да XX стагоддзя Жамойціяй. Нейкі час і яна ўваходзіла ў склад ВКЛ. Даўней дзяржава беларусаў называлася Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае і іншыя – скарочана ВКЛ ці Літва.

У Еўропе XIII-XVIII стст. гэта была самая вялікая па тэрыторыі дзяржава. Ёй належалі сучасныя заходнія расейскія землі, частка Украіны і ўсходня частка Польшчы. Касцяк дзяржавы складалі беларусы. (Вялікае княства Літоўскае 2005). На міжнароднай арэне беларусаў і ўсіх жыхароў ВКЛ называлі літвінамі. Такая была тады і саманазва беларусаў. Усё дзяржаўнае справаводства, літаратура і палеміка ў ВКЛ былі беларускамоўныя. Страбеларускую мову называлі ў ВКЛ і за яе межамі рускай альбо літоўскай.

Як жа магло здарыцца, што беларуская мова пачынаючы ад 18-га ст. патрапіла ў неспрыяльныя ўмовы для развіцця? З дзяржаўнага ўжытку беларуская мова выводзілася паступова. Урэшце адукаваныя слаі насельніцтва адышлі не толькі ад роднай мовы, культуры але і адракліся ад сваёй беларускасці назваўшыся палякамі а пазней расейцамі.

ГІСТОРЫЯ ПЫТАННЯ

Як вядома, у канцы XV ст. суседняя з ВКЛ дзяржава Вялікае Княства Маскоўскае вызвалілася ад мангола-татараў. Старажытныя Масковія і Літва ад гэтага часу пачалі бясконца ваяваць паміж сабою. Дзяржавы-суседкі намагаліся ўстанавіць панаванне над усімі ўсходнімі славянамі. Найбольшыя вайсковыя сутычкі тых часоў паміж імі: 1492-1494 гг., 1500-1503 гг., 1507-1508 гг., 1512-1522 гг., 1534-1537 гг. Вялікае Княства Літоўскае з цяжкасцю адбівалася яшчэ і ад набегаў крымскіх татараў. З 1474 па 1569 гг. татары зрабілі 75 нападаў на ВКЛ. Лівонская вайна 1558—1583 гг. давяла эканоміку ВКЛ да катастрофы. Удзельнікі канфлікту: Вялікае Княства Маскоўскае, Лівонская канфедэрацыя, Вялікае Княства Літоўскае, Швецыя і Данія 1 ліпеня 1569 г. ВКЛ вымушана было заключыць Люблінскую унію з Польскім Каралеўствам. Польшча і Літва стварылі федэратыўнае аб'яднанне (саюз) – Рэч Паспалітую. Ад лацінскага res publica.

Аслабленае войнамі Вялікае Княства Літоўскае паводле пагадненняў аддала Польскаму Каралеўству Падляшша (сваю тэрыторыю ля ляхаў-палякаў) і Украіну. У складзе ВКЛ засталіся, па сутнасці, толькі беларускія этнічныя землі. Пастановай саюзнага сойму Рэчы Паспалітай 1696 г. беларуская (так званая руска-літоўская) мова ў Вялікім княстве Літоўскім паволі пачала

ў справаводстве і ў астатніх культурных сферах, замяняцца польскай. (Акіньчыц 2002). Як літвіны-беларусы маглі такое дапусціць? Караля польскага і вялікага князя літоўскага (кіраўніка федэратыўнай дзяржавы) ў адной асобе ў Рэчы Паспалітай выбіралі на агульным сойме.

У 1587 г. на выбарчым сойме, дзе амаль не было прадстаўнікоў ВКЛ, быў абраны кіраўніком Рэчы Паспалітай Жыгімонт Ваза. Гэты дзяржаўны дзеяч ад 1592 г. стаў адначасова і Каралём Швецыі. Жыгімонт Ваза (1566-1632 гг.) быў заўзятым прыхільнікам Рымскай царквы, з-за чаго шведская пратэстантская шляхта на сваім сойме скінула яго са шведскага трона ў 1599 г. Новы валадар Рэчы Паспалітай Жыгімонт Ваза абкружыў сябе езуітамі і чужаземцамі. З цягам часу, тыя хто не меў каталіцкае веравызнане не маглі, фактычна, займаць дзяржаўныя пасады і ўдзельнічаць у грамадскім жыцці.

У касцёлах, навучальных і дзяржаўных установах Польскага Каралеўства ад узніку пісьменнасці карысталіся лацінскай мовай. Толькі ў 1513 г. ў Кракаве была надрукавана першая кніга на польскай мове. Гэта быў зборнік малітваў "Духоўны рай". Але аж да XVII ст. лацінская мова панавала ва ўсіх сферах духоўнага жыцця Польшчы.(Липатов). Рэдка калі канцыляры скарыстоўвалі польскую мову як дапаможную – не маючую юрыдычнай сілы.

Поруч жа на ўсходзе ў саюзнай старажытнабеларускай дзяржаве ВКЛ карысталіся ва ўсіх сферах грамадскага і культурнага жыцця роднаснай (славянскай) беларускай мовай. На захад ад Польшчы, у суседзяў–чэхаў, у сувязі з Гусіцкімі войнамі іх нацыянальная чэшская мова таксама квітнела. Каталіцкая (Рымская) царква мела богаслужэнне толькі на лацінскай мове. Яна ўсяляк перашкаджала самавызначэнню народаў, жорстка карала спробы перакладаў біблейскіх тэкстаў на нацыянальныя мовы.

У Заходняй Еўропе пачалася ў XVI ст. Рэфармацыя каталіцкай царквы, адным з вынікаў якой быў пераклад Бібліі на народныя мовы і развіццё нацыянальных літаратур. Думаю, што польская, эліта добра ўсведамляла пагрозу асіміляцыі палякаў беларускай культурай. Таму ад пачатку XVIII ст. яны прыклалі ўсе свае намаганні каб дзяржаўнаю моваю Рэчы Паспалітай сталася польская. З развіццём жа ў Еўропе кнігадрукавання (ад другой паловы XV ст.) культурныя і палітычныя працэсы значна паскорыліся. Заквітнелі нацыянальныя літаратуры. У тым ліку і польская. Што да беларускіх зямель, то пачатак кнігадруку мае тут не толькі пазітыўныя, але і адмоўныя бакі. З пранікненнем Рэфармацыі на Беларусь вярхоўныя ўлады змагаліся не толькі з "пратэстантскай ерассю" ў каталіцызме ці праваслаўнаю царквою але і з беларускамоўнай шляхтай. .( Падокшын 1990).

ТРОХІ АБ УЗНІКНЕННІ ПІСЬМЕННАСЦІ НА БЕЛАРУСІ, ШТО ЦЕСНА ЗВЯЗАНА З РЭЛІГІЙНАЙ СІТУАЦЫЯЙ

Як вядома, Хрысціянства на тэрыторыі ўсходніх славянаў пачало сваё шэсце ад Х ст. Было яно Візантыйскага праваслаўна-грэчаскага ўзору. Прапаведнікі Кірыл і Мяфодзій стварылі ці рэфармавалі для славянаў алфавіт і зрабілі пачатак перакладу біблейскіх тэкстаў на так званую славенскую мову. Так пачала ўзнікаць усходнеславянская пісьменнасць. Ад таго часу ў Беларусі сталі ствараць і сваю богаслужэбную (царкоўнаславянскую) і іншую літаратуру. . У 1054 г. адбыўся раскол хрысціянскай царквы на Канстанцінопальскую-Візантыйскую (ці праваслаўную) і Рымскую (ці каталіцкую). Яны ўзаемна адна адну не прызнавалі.

На пачатку і ў дзяржаўных установах усходніх славян таксама пісалі на больш-менш зразумелай для амаль ўсіх мове Кірыла і Мяфодзія (старамакедонскай-старабалгарскай альбо стараславянскай). Тады яе называлі славенскай. Паступова дзяржаўныя ўстановы і беларускія літаратары перайшлі на старабеларускую мову ці як яе тады называлі рускую ці літоўскую.

У адрозненне ад Заходняй Еўропы, дзе скарыстоўвалі ў касцёлах і грамадска-культурным жыцці чужацкую лаціну. Францішак Скарына з Полацка (1490? – 1540? гг.) ўпершыню надрукаваў у 1517-1519 гг. перакладзеныя ім біблейскія кнігі на старабеларускую мову. У тыя ж часы ў Еўропе каталіцкая царква змагалася з "ерассю"- Рэфармацыяй. У суседняй з Беларуссю-Літвою расейскай дзяржаве (Масковіі) таксама ішла барацьба з так званымі ерэтыкамі. І Каталіцкая і Праваслаўная цэрквы намагаліся ўсімі сродкамі перашкодзіць распаўсюджванню перакладаў біблейскіх кніг на нацыянальных мовах.

Не знайшлося пакуль аніводнага архіўнага дакумента які б паказаў, што беларускі першадрукар змог прадаць хоць адзін з экзэмпляраў сваіх біблейскіх кніг. У Вялікім Княстве Літоўскім бадай што усё насельніцтва было хрысціянскае. Ёсць ускосныя сведчанні, што спроба Скарыны распаўсюдзіць сваю прадукцыю ў суседняй Масковіі скончылася трагічна. Кнігі былі спаленыя(Дак. пра Ф. Скарыну. №44. 1988). Чаму так сталася, што самую важную кнігу для хрысціянаў (Біблію) не захацелі ані ккаталіцкія ані праваслаўныя іерархі?

Клерыкальныя чыноўнікі намагаліся кіраваць усім грамаствам. Як ужо было пазначана, каталіцкая царква ў Вялікім Княстве Літоўскім мела большую прыхільнасць дзяржавы. Калі польская мова з цяжкасцю прабівала сабе дарогу ў царкву, то беларуская тым больш. Праваслаўная царква ў Беларусі часоў ВКЛ мусіла бараніцца супраць дзяржаўнага каталіцкага ўсціску. Адным са сродкаў для барацьбы за выжыванне праваслаўныя выбралі вяртанне да так званых першакрыніц – біблейскіх тэкстаў на мове Кірыла і Мяфодзія

Гэта значыць, што былі прадпрынятыя спробы ачысціць богаслужэбныя кнігі ад узніклых за стагоддзі "памылак" у богаслужэбных кнігах. Як было адзначана, Кірыл і Мяфодзій у сярэдзіне IX ст. далі толькі пачатак перакладу біблейскіх кніг на старабаўгарскую-старамакедонскую мову. Яна паходзіць з грэчаскага горада Салонікі, дзе жылі паўднёвыя славяне. Іх мова (тады яе называлі славенскаю – цяпер стараславянскаю) скарыстоўвалася ў цэрквах усіх праваслаўных славян цягам стагоддзяў.

Стараславянская-старамакедонская мова не мела пасля Кірыла і Мяфодзія жывых носьбітаў і сталася мёртвай (малазразумелай). Яна дагэтуль лічыцца сакральнай. Перапісчыкі, перакладчыкі не маючы ў сябе слоўнікаў, граматык чым далей рабілі ў "святых" кнігах ўсё больш і больш хібаў. Розначытанні ж Бібліі пладзілі раскол. У 1499 г. ў Ноўгарадзе (Масковія) была прадпрынята спроба стварыць "узорную" (кананічную) царкоўнаславянскую-стараславянскую Біблію.( Библия в дух. жизни..). І каталіцкая і праваслаўная цэрквы ў Беларусі аднолькава варожа адносіліся да перакладу і распаўсюджвання "святога" пісання на жывой зразумелай тады ўсім старабеларускай (рускай ці літоўскай) мове. У XVI ст. пратэстанцкія рухі ў Беларусі намагаліся друкаваць і распаўсюджваць царкоўную літаратуру на мове народа, ды пасля працяглай барацьбы здалі свае пазіцыі. Аднак, польская мова паступова прабіла сабе дарогу да вернікаў.

Менавіта ў Беларусі ўпершыню зроблены першыя спробы перакласці і надрукаваць Біблію на польскай мове. XVIII ст. найбольш беднае на пісьмовыя помнікі на беларускай мове. У ВКЛ у гэты час (ад сумнавядомай пастановы сойму 1696 г.) развіваецца культура ў асноўным на польскай моўнай глебе. Суседнія дзяржавы - Расея, Аўстрыя і Прусія ўсё больш і больш умешваліся ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай. Адбыліся раздзелы (акупацыя) Рэчы Паспалітай – 1772, 1793, 1795 гг. Названыя дзяржавы к 1795 г. поўнасцю захапілі яе тэрыторыю. Расейская імперыя анексавала Беларусь-Літву. Напачатку акупацыі Расеяй тут было захавана дзеянне мясцовай канстытуцыі – статута Вялікага Княства Літоўскага.

***

Парадаксальным падаецца той факт, што найбольшая паланізацыя беларускага насельніцтва адбылася калі наша краіна патрапіла пад акупацыю Расеі. Справа ў тым, што многія шляхцічы ВКЛ не адрозніваліся маёмасна ад сялян, аднак былі свабодныя. Адміністратыўны ж імперскі апарат патрабаваў ад іх пацверджання свайго шляхецкага тытулу, што большасці з іх не ўдалося. Яны былі пазбаўленыя прывілегіяў а некаторыя "аўтаматычна" патрапілі ў прыгон (рабства). Акрамя таго ў Вялікім княстве Літоўскім звычайныя людзі жылі вальней і заможней. І гэта таксама было адной з прычынаў чаму былыя жыхары Рэчы Паспалітай перыядычна намагаліся вызваліцца ад акупантаў. У 1840 г., пасля чарговага паўстання было адменена дзеянне Статута ВКЛ на тэрыторыі Беларусі.

Адметным з'яўляецца паўстанне 1863 г. У Беларусі яго ўзначаліў Кастусь Каліноўскі, які чакаючы шырокай падтрымкі сялянаў, выдаваў адмыслова для іх газету з назвай "Мужыцкая праўда". Выйшла 7 нумароў надрукаваных "лацінскімі" літарамі на беларускай мове. Паўстанне было брутальна задушана расейскімі ўладамі. Назву Літва спрабавалі спачатку замяніць на Беларусь а пасля і яна была забароненая. Такім чынам і дзяржаўная

беларуская мова ВКЛ была па-за законам.(Дак. і мат. па гіст. Беларусі. 1940). На тэрыторыі Беларусі ў гэты час зусім няма беларускамоўных перыядычных выданняў.

Паводле расейскіх нацыяналістаў, беларусы і ўкраінцы – гэта неаддзельная частка рускага этнасу. Тым не менш, нягледзячы на насаджэнне ў краі расейскага чынавенства, рэлігійны і нацянальны ўсціск, паводле перапісу 1897 г., 43,3% беларускіх дваранаў назвалі роднай мовай беларускую.( Этнагр. Беларусі 1989).

Паступова беларуская эліта апамяталася ад чарговых рэпрэсіяў і частка яе стала пісаць і друкавацца ў тым ліку і на беларускай мове. Гэта было праблематычна з-за імперскай расейскай цэнзуры. У канцы XIX ст. ўзнікла плеяда беларускамоўных аўтараў. Пасля рэвалюцыі 1905 г. ў Расейскай імперыі было ўжо дазволена ладзіць прыватныя беларускія (і іншыя) выдавецтвы і яны неўзабаве шырока разгарнулі сваю дзейнасць. Намаганнямі пэўных жа асобаў-энтузіястаў ад 1915 г. пачалі з'яўляцца першыя пачатковыя беларускамоўныя школы. Для іх ствараліся чытанкі. Браніслаў Тарашкевіч напісаў і выдаў у 1918 г. першую граматыку сучаснай беларускай мовы для пачатковых школаў. Своеасаблівы "росквіт" беларускай пісьменнасці ўскалыхнула Першая сусветная вайна 1914-18 гг.

7 лістапада 1917 г. ў Расеі партыямі меншавікоў, бальшавікоў, эсэраў і іншых зроблены пераварот. Забіты расейскі імператар і камуністы, ўзурпаваўшы ўладу, паступова ствараюць на прасторах былой Расейскай імперыі дыктатарскую дзяржаву - так званы Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (СССР).

Абвешчаная ў Менску беларусамі 25 сакавіка 1918 г. незалежная ад Расеі Беларуская Народная Рэспубліка, была задушаная. Бальшавікі вялі гандаль этнічнымі землямі беларусаў для таго, каб выжыць сярод варожа настроеных суседніх дзяржаў. У складзе СССР апынулася толькі невялікая частка ўсходняй Беларусізфармальнаюдзяржаўнасцю.Заходнюю Беларусь захапіла Польская Рэспубліка. Неўзабаве частка Беларусі (Смаленская вобласць), дзе і была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, далучаная да Расеі. Паводле дзяржаўнай праграмы 1920-30-х гг. у новастворанай бальшавіцкай імперыі паэтапна ліквідуецца непісьменнасць. За гэты час інтэнсіўнае развіццё мастацкай літаратуры канчаткова сфарміравала сучасную беларускую мову. У Менску ў 1921 г. пачаў працаваць Беларускі ўніверсітэт. Мова народа пачала ўводзіцца ў дзяржаўныя ўстановы, што выклікала супраціў зрусіфікаванага чынавенства.( Гіст. Беларусі. Т.5. 2006: 216 – 225).

У 1930-я гг. працэсы нацыянальнага адраджэння былі калі не спыненыя дык значна запаволеныя. Амаль уся беларуская інтэлігенцыя абвінавачана ў "буржуазным нацыяналізме" і знішчана. Беларускамоўныя сродкі масавай інфармацыі пад шалёным ідэалагічным і цэнзурным усціскам. У Заходняй Беларусі, якая да 1939 г. ў складзе польскай дзяржавы, таксама ўсё беларускае не мае спрыяльных умоваў для развіцця. Тут беларускіх школаў з часам не стала – праводзілася паланізацыя.( Лыч 1999: 380).

Пасля сканчэння Другой сусветнай вайны (1939-45 гг.) амаль уся этнічная Беларусь ужо ў складзе СССР. Фармальна саюзныя рэспублікі ў СССР маюць права на дзяржаўнасць нацыянальнай мовы. Ды, паводле камуністычнай дактрыны, ўсе мовы мелі зліцца ў адну. І на самай справе дзяржаўнаю моваю на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюзу была расейская. Як ужо было адзначана, у часе сталінскіх рэпрэсіяў былі закатаваныя ці не ўсе патрыятычна настроеныя беларусы. Дзяржаўныя і іншыя пасады займаюцца чужакамі, якія варожа ставяцца да ўсяго беларускага. У Беларускай ССР насаджваецца расейская мова.

Паступова скарачаецца колькасць сярэдніх школаў з беларускай мовай навучання. Яны замяняюцца расейскімі. У 1958 г. ў сталіцы Беларусі толькі пяць школаў з 58-мі былі беларускімі. У 1971/72 навучальным годзе ў гарадах Беларусі вучылася на беларускай мове толькі 2,4 % дзяцей, у вёсках - 48,6 %. (Ханазаров 1982). Вышэйшую адукацыю ў Савецкай імперыі (і ў тым ліку ў Беларусі) магчыма было атрымаць толькі на расейскай мове. Ва ўсіх дзяржаўных установах СССР - толькі расейская мова. Выдавецтвы ў БССР выпускаюць у большасці літаратуру на расейскай мове. (Мікуліч 1996). Тэлебачанне і радыё таксама пад вялізным уплывам расейскай культуры.

Больш чым стогадовая паланізацыя (ад 1696 г.) а затым двухсотгадовая русіфікацыя (ад 1772 г.)

далі адпаведны вынік. Беларусы амаль перасталі карыстацца сваёю моваю. У Савецкай імперыі (у БССР) ўсе выступы за "беларусізацыю" жорстка падаўляліся.

Калі ў 1991 г. Беларусь абвясціла аб выхадзе са складу СССР, большасць насельніцтва, якое вымушана было хадзіць у расейскамоўныя школы, размаўляла ўжо на беларуска-расейскай мяшанцы. З прыходам да ўлады ў Беларусі у 1994 г. стаўленіка Расеі Аляксандра Лукашэнкі, працэс русіфікацыі працягваецца. Лукашэнка ўзурпаваў уладу ў краіне. Ён, стварыўшы моцны рэпрэсіўны апарат, пануе ўжо 20 гадоў і сыходзіць зусім не збіраецца.

У травені 1995 г. ім быў навязаны і пасля сфальсіфікаваны рэферэндум аб наданні расейскай мове статуса другой дзяржаўнай мовы. Лукашэнка узаконіў расейскую мову і практычна толькі яна і з'яўляецца дзяржаўнай. Па выніках перапісу 2009 г. ў Беларусі жыве 84% беларусаў. 53% рэспандэнтаў назвалі беларускую мову роднай і толькі 23% -хатняй. Пры папярэднім перапісу 1999 г., 73,6% жыхароў краіны беларускую мову лічылі роднай, а карысталася ў сем'ях ёй штодзённа 37%. (Распр. нас. РБ…в 2009 и 1999 гг.) Паводле ЮНЭСКА беларускасць вымірае бо менш за 30% беларусаў карыстаецца роднай мовай.

Беларускія дзяржаўнае тэлебачанне і радыё толькі фармальна лічацца беларускімі. Так і перыядычныя выданні. Яны нешматлікія і некаторыя маюць толькі назву беларускую. Ці не ўсе матэрыялы ў іх на расейскай мове. ( Кол…вып. Изд. в РБ за 2011 г. ). Бальшыня жыхароў Беларусі інфармацыю атрымлівае праз тэлебачанне. Амаль нідзе не ўжываецца беларуская мова афіцыйна.

Ёсць інтэрнэт, які пры ўсіх цэнзурных рагатках, адносна вольны. Першыя беларускамоўныя вэб-старонкі пачалі з'яўляцца ў 1991 г. Сярэдні ўзрост карыстальніка інтэрнэтам 30 гадоў. Тут ужо недастаткова быць толькі пісьменным. Трэба яшчэ мець адмысловыя тэхнічныя сродкі і ўмець з імі працаваць. Выраслі пакаленні ў часе найвялікшай расейскай моўнай і культурнай экспансіі. Інтэрнэт адлюстроўвае не толькі сучасны моўны стан, але і яго, як выглядае, негатыўныя перспектывы. На інтэрнэце псеўдаканкурэнцыя двух стыхій – альтэрнатыўнай і афіцыйнай.

У Беларусі інтэрнэт-рэсурсы на расейскай мове пераважаюць. Тон і тут задаюць дзяржаўныя ўстановы, органы, афіцыйныя перыядычныя выданні. Выключэннем з правіла і яго ж пацверджаннем з'яўляюцца Міністэрства замежных справаў і Міністэрства адукацыі. Камерцыйныя структуры арыентуюцца на рынак. Яны, ў лепшым выпадку, як і названыя міністэрствы, маюць старонкі на дзвюх мовах – расейскай і беларускай. Беларускамоўныя старонкі маюць пераважна недзяржаўныя грамадскія арганізацыі. З зарэгістраваных у каталозе "Акавіта" 94, - 45 беларускамоўныя. (Стат…інтэрнэт рэсурсаў). Гэтыя лічбы вельмі прыкладныя. Назіраецца тэндэнцыя да змяншэння беларускага. Паказчыкам ёсць колькасць наведвальнікаў. Найбольш наведвальнікаў маюць расейскамоўныя інтэрнэт-рэсурсы Беларусі – дзесяткі тысяч. Адзін з самых паспяховых беларускамоўных сайтаў (газета "Наша ніва") наведвае каля трох тысячаў чалавек штодзень. Астанія чыста беларускамоўныя сайты могуць пахваліцца толькі сотнямі чалавек. З часам некаторыя спрабуюць завесці двухмоўе ці ратуючыся ад банкроцтва пераходзяць на расейскую мову.

Як паведаміла 3 сакавіка 2012 г. "Наша Ніва", у Беларусі беларускамоўных кніг выдаецца прыкладна 10% ад агульнай колькасці штогод, з іх прыпадае на дзяржаўныя прадпрыемствы каля 120 найменняў. Гэта звычайна сацыяльна значныя праекты. Так, напрыклад, 20 назваў – кнігі з серыі "Школьная бібліятэка" з тыражом да 30 тысячаў.( Газ. "Наша ніва" 2012). Здавалася б натуральны вольны рыначны працэс. Усё на самай справе больш складана. Пачынаецца выхаванне чалавека ў сям'і. Дарослых жа цяжка перавучыць. Залежыць усё ад школ, адкуль і выйдуць наступныя пакаленні. Справа гэта спецыфічна дзяржаўная – яна патрабуе аграмадных сродкаў і адпаведнага кіравання

Беларускамоўных дзіцячых садкоў у Беларусі фактычна няма. У 2011 г. каля 20% дзяцей у Беларусі навучаліся ў беларускамоўных школах. За дзесяць гадоў (з 2001 гг.) колькасць зменшылася прыкладна на 10 %. За 20-ці гадовае праўленне Аляксандра Лукашэнкі колькасць беларускамоўных школаў зменшылася больш чым на 30%. Закрыццё школаў у першую чаргу звязана з памяншэннем колькасці жыхароў Рэспублікі Беларусь, але зачыняюцца ў першую

чаргу беларускамоўныя. (Сінюк). На працягу ўсёй гісторыі Беларусі ў ёй аніколі не было аніводнай цалкам беларускамоўнай вышэйшай навучальнай установы. Пасля сярэдняй школы атрымаць вышэйшую адукацыю поўнасцю на роднай мове беларус не мае магчымасці аж да нашага часу.



*Беларускі (польскамоўны) паэт Адам Міцкевіч нарадзіўся 24.12.1798г. ў Наваградку. Палякі лічаць яно класікам. Памёр у Канстанцінопалі 26.11.1855г.*

Такая цяпер у Беларусі антыбеларуская моўная палітыка. А што наогул з чытацкай аудыторыяй? Яна цалкам адпавядае сусветным тэндэнцыям. Людзі чытаюць усё меней і меней. 2012 год быў абвешчаны годам кнігі. У 2011 годзе лабараторыя "Новак" правяла апытанне аб тым колькі чытаюць беларусы. Палова апытаных зусім не купляе кнігі. 33,7% зусім не чытае . 62 % беларускімі кнігамі не цікавяцца. Адметны факт, што 13,3% сказалі, што не ўмеюць чытаць па-беларуску. 74,6% апытаных не змаглі назваць аніводнага беларускага пісьменніка. Што тычыцца перыядычных як беларускамоўных так і рускамоўных выданняў, то іх чытаюць не больш за 3 % рэспандэнтаў.( Як беларусы сустр.. кнігі? )

ЗАКЛЮЧЭННЕ

Такім чынам, у адрозненне ад іншых краін, узнікненне кнігадрукавання ў свой час а далей сродкаў масавай інфармацыі паскорыла працэс асіміляцыі беларускай эліты а значыць і моўную дэградацыю беларускага грамадства. Галоўнай праблемай Беларусі была адсутнасць дзяржаўнасці апошніх 200 гадоў. Цяпер антынацыянальная (антыбеларускамоўная) па зместу палітыка дзяржавы. Адміністратыўнае навязванне чужой мовы спачатку ў Рэчы Паспалітай а пасля ў Расейскай і Савецкай імперыях яшчэ больш асімілявала беларусаў. Немагчымасць беларусу аж дагэтуль атрымаць сярэднюю і вышэйшую адукацыю на роднай мове падштурхоўвае гэтую ж тэндэнцыю. Ліквідацыя непісьменнасці на пачатку XX ст. амаль дакончыла асіміляцыю астатніх жыхароў Беларусі.

У наш час тэлебачання, радыё і інтэрнэту гэты працэс шалёна паскорыўся. Сучасныя сродкі масавай інфармацыі не дарэмна называюць чацвёртай уладай. Іх роля, сапраўды непамерна ўзрасла. Аб развіцці нацыянальнай культуры і ў першую чаргу мовы мае клапаціцца галоўным чынам дзяржава. Вось ужо 300 гадоў беларускасць застаецца пераважна толькі прыватнай справай асобных энтузіястаў. Зыходзячы з вышэй уведзеных фактаў, Беларусь, калі і не акупавана ў дадзены момант Расеяй фактычна, то яе культурная і моўная экспансія далей працягваецца. Зараз русіфікацыя Беларусі праводзіцца нашмат эфектыўнейшымі сродкамі. Вынікі бачацца трагічнымі. Зразумела, што "святое месца пустым не бывае". Беларусь шчодра дзялілася і дзеліцца сваімі сынамі і дочкамі, якія працуюць і працавалі на суседскіх культурных нівах

Пачынальнік расейскай паэтычнай школы – Сімяон Полацкі, Адам Міцкевіч – класік польскай літаратуры. Спіс можна працягваць доўга. Культура ў Беларусі развіваецца. Што да мовы беларусаў, то яе спрабуюць зліквідаваць ужо не першае стагоддзе і парадаксальнай здаецца яе жывучасць. Тут узнікла і фенаменальная сітуацыя, якая заключаецца ў тым, што беларус, размаўляючы на псеўдарасейскай мове, няблага разумее ўкраінскую мову, польскую ну і, зразумела, беларускую. Ды і астатніх славянаў, відаць, звычайнаму беларусу было б не цяжка разумець. У сучасным свеце мы назіраем экспансію ангельскай мовы. Стала ў пярэстай моўнай карціне свету знікае нейкая з моваў. Выжываюць дужэйшыя. Свет стандартызуецца, уніфікуецца.

# БЕЛАРУСКІЯ ТРАДЫЦЫІ

У кожнага ў жыцьці свая мэта і мара, свае ўяўленьні аб дабры і зьле. Здавён людзі верылі ў нейкія прыродныя сілы, што дапамагалі ці перашкаджалі ў жыцьцёвай хадзе. Усе прыродныя прасторы па ўяўленьню старажытных людзей былі абжытыя міфічнымі гаспадарамі. У беларускіх лясах жылі - лесавікі, у рэках, азёрах — вадзянікі, у дамах – дамавікі і гэтак далей. Усіх духаў трэба было задобрываць ці дарыць ім падарункі.

## ЗІМНЯЕ СОНЦАСТАЯНЬНЕ

Пачатак Новага году заўсёды займаў вельмі важнае месца ў культуры. З гэтым момантам у вераваньнях зьвязвалі нараджэньне бога Сонца. 21 снежня самы кароткі дзень у годзе – гэта дзень зімняга сонцастаяньня. З 26 сьнежня сьветлы час сутак паступова расьце на адну хвіліну штодзень і да дня летняга сонцастаяньня павялічваецца на 10 гадзін. Між іншым, гэтай зімой зімняе сонцастаяньне супала з поўным зацьменьнем Месяца. Адзін раз за 456 гадоў ноч з 21 на 22 сьнежня была і самай цёмнай.

Зімняе сонцастаяньне прыпадае на самы кароткі дзень і самую доўгую ноч у годзе, калі вышыня ўздыму сонца на небасхіле зьяўляецца самай нізкай. Зімняе сонцастаяньне адбываецца ў той момант, калі нахіл восі вярчэньня Зямлі ў напрамку ад Сонца прымае найбольшае значэньне. Максімальны вугал нахілу зямной восі адносна Сонца падчас сонцастаяньня складае 23° 26'. Зімняе сонцастаяньне называюць таксама “першым днём зімы”, “сярэдзінай зімы”, “самай доўгай ноччу” ці самым кароткім днём”. Сезоннае значэньне зімняга сонцастаяньня складаецца ў павароце ад паступовага падаўжэньня ночы і скарачэньня дня да адваротнага кірунку. У залежнасьці ад зруху календара, зімняе сонцастаяньне адбываецца 21 або 22 сьнежня ў Паўночным паўшар'і і 20 ці 21 чэрвеня ў Паўднёвым паўшар'і.

У розных культурах тлумачэньне гэтай падзеі вар'іравалася па-рознаму, але ў большасьці народаў яно расцэньвалася як адраджэньне. У гэты час ладзіліся сьвяты, фестывалі, сустрэчы, рытуалы і іншыя ўрачыстасьці.

Сонцастаяньне, магчыма, было асаблівым момантам гадавога цыклу, нават у часы неаліту. Астранамічныя падзеі, якія са старажытных часоў кіравалі спарваньнем жывёл, пасевам сельскагаспадарчых культур і нарыхтоўкай зімовых запасаў да наступнага ўраджаю, паказваюць, як узніклі розныя культурныя міфы і традыцыі.

Зімняе сонцастаяньне было надзвычай важным у жыцьці першабытнай суполкі. Людзі не былі ўпэўненыя ў тым, што яны добра падрыхтаваліся да зімы на працягу папярэдніх дзевяці месяцаў, што яны змогуць перажыць гэтую зіму. Голад быў распаўсюджанай з'явай у зімовы перыяд, са студзеня па красавік, гэты адрэзак года вядомы як галодныя месяцы. Ва ўмераным клімаце фестываль сярэдзіны зімы быў апошнім святам перад пачаткам цяжкага зімовага перыяду. Большая частка жывёлы ў гэты час забівалася, паколькі яе не было чым карміць на працягу зімы. Пад час зімняга сонцастаяньня больш за ўсё спажывалася свежага мяса. Вялікая частка віна і піва, зробленага на працягу цёплага часу года, даходзіла нарэшце да гатоўнасьці, і яго можна было піць. Святкаваньні праводзіліся не толькі непасрэдна ў гэты дзень, часьцей за ўсё напярэдадні. Яны пачыналіся ў поўнач або на досьвітку.

Паколькі зімняе сонцастаяньне зьяўляецца паваротнай падзеяй у прысутнасці Сонца на небе, яно дало падставу для паўсюднага ўзнікненьня канцэпцыі нараджэньня або адраджэньня багоў. У культуры многіх народаў на аснове зімняга сонцастаяньня заснаваныя цыклічныя календары, святы, адраджаецца год, сімвал «новых пачынаньняў».

# КАЛЯДЫ Ў ЧЭХІІ

24, 25, 26 сьнежня ў Чэшскай Рэспубліцы – дзяржаўныя сьвяточныя дні (Ва́ноцэ-Vánoce),. Па каталіцкай хрысціянскай традыцыі 25 сьнежня адзначаюць як дзень нараджэньня Ісуса. Згодна з гэтым веравучэньнем , ён Сын Бога, памёр дзеля выкупленьня чалавечых грахоў а затым ажыў і адляцеў на неба. Лічыцца, што гэты Месія (пасрэднік між людзьмі і Богам) прыйдзе другі раз, каб судзіць жывых і мёртвых і выратуе толькі таго, хто паверыў праз яго ў адзінага Бога.

Каляды (ці Раство) разам з Вялікаднем (сьмерць і уваскрашэньне Ісуса Хрыста) і Днём Святой Тройцы – самыя важныя сьвяты хрысьціянаў. Хрысьціянства як новая рэлігія ўзнікла прыкладна 2000 гадоў таму ў выніку казаньняў Ісуса Хрыста ў Палесьціне. Ісус стварыў Новае вучэньне (Запавет-дамову) на аснове іудзейскага Старога Запавету ці Танахі. Так узнікла Біблія ці Сьвяшчэннае пісаньне. Артадаксальны іудаізм не прызнае Ісуса. Стары Запавет (дамова) была заключана паміж Богам і роданачальнікам усяго яўрэйскага народу - Аўраамам. Дагаворам абумоўліваўся далейшы лёс нашчадкаў Аўраама. У IV стагодзьдзі Хрысціянства стала дзяржаўнай рэлігіяй Рымскай імперыі.

Лаціняне-рымляне называлі першыя дні кожнага месяца calendae. Ад calo "клікаць". Перад тым старжытнарымская рэлігія палягала ў культах розных божстваў (язычніцтва ці паганства). Са старажытных часоў усе людзі на зямлі адзначалі "дзень нараджэньня новага сонца" – гэта значыць зімняе сонцастаяньне. Ва ўсіх краінах Хрысьціянства на даты язычніцкіх сьвятаў паступова накладвала біблейскі сэнс. Міфалагічная школа лічыць веравучэньне Хрыста заснаваным на аснове больш старажытных культаў паміраючага і уваскрасаючага бога.

Традыцыйна ў Чэхіі на Каляды паўсюль ставяць «вечназялёныя» упрыгожаныя елкі, што сімвалізуюць бессмяротнасьць. Чэшскія Каляды- гэта ціхае сямейнае сьвята з мноствам загадзя прыгатаваных салодкіх печываў і іншых слодычаў. Вечарам 24 сьнежня на Куцьцю (чэш. Štědrý den – Шчэдры дэн) на стол падаюць смажанага карпа (ці суп з яго), шніцэлі, салату аливье. Пасьля вячэры адзін з дарослых звоніць у званочак і ўсе пад елкаю знаходзяць свае падарункі.

Дзецям на працягу года кажуць, што калі яны будуць паслухмянымі, то пад елку ім Маленькі Ісусік (чэш. Ježíšek-Ежышэк) прынясе тое, чаго яны прагнуць. Дарослыя таксама цьвердзяць дзецям, што калі яны ў Шчэдры дэн да вечара не будуць есьці анічога салодкага, то іхняе цярпеньне будзе ўзнагароджана тым што яны пабачаць залатога парсючка. Парсючок па-чэшску (акрамя звычайнага значэньня) – гэта яшчэ капілка ці той жа сонечны зайчык. Залежыць ад кантэксту.

Падарункі заўсёды даваліся для ўмацаваньня адносінаў. Людзі вераць у іх чароўную сілу. У былыя часы менавіта на Куцьцю цаніліся гаданьні. На наступны пасьля дня нараджэньня Хрыста (гэта значыць 26 сьнежня – дзень Сьвятога Штэпана) раней у Чэхіі некаторыя хадзілі ад дому да дому з песьнямі, у якіх усхвалялі Бога. За свае намаганьні яны атрымлівалі пачастункі ці троху грошай. Было што калядавалі да 6 студзеня – гэта значыць да самага канца каталіцкіх Калядаў.

24-26 сьнежня па ўсёй Чэхіі зачыненыя крамы (за рэдкім выключэньнем), рэстараны, амаль не робіць грамадскі транспарт. Вуліцы пусьцеюць. Чэхам цяжка патлумачыць, чаму ў былых Савецкіх рэспубліках Каляды ў большасьці сьвяткуюць пасьля Новага году, тым больш што такое Стары Новы год. Між іншым, у Чэхіі навагодняе сьвята называецца Сільвестр (чеш. Silvestr). Ён поўнасьцю адрозьніваецца ад Шчэдрага дня. Многія сустракаюць Новы год у рэстаранах, корчмах, на дыскатэках, часта арганізаванных проста на плошчах ці вуліцах.

# НОВЫ ГОД.
# ПРАВАСЛАЎНЫЯ КАЛЯДЫ.
# СТАРЫ НОВЫ ГОД.

Сьвята Новага году на постсавецкай прасторы – самае любімае. Большасьць краін сьвету карыстаецца грыгарыянскім календаром. Новы год у іх пачынаецца 1 студзеня. Некаторыя краіны жывуць па месячнаму календару – гэта значыць па фазах спадарожніка зямлі.

Яўрэйскае сьвята Глава года адзначаецца праз 163 дня пасьля Пасхі (не раней 5 верасьня і не пазьней 5 кастрычніка). Кітайскі Новы год прыўрочаны к зімняму Маладзіку спадарожніка зямлі Месяца пасля завяршэньня поўнага месячнага цыклу, што адбываецца пасля зімняга сонцастаяньня. Гэта другі Маладзік пасьля 21 сьнежня. У нашым календары гэта адзін з дзён паміж 21 студзеня і 21 лютага. Прыкладна гэтак жа і ва Вьетнамцаў. Іранцы, і тыя хто карыстаецца іх календаром, сустракаюць Новы год 21 ці 22 сакавіка – ў дзень вясеньняга раўнадзенства, калі дзень становіцца паступова даўжэйшы за ноч.



Навагодняму сьвяту не меней чым 2.5 тысячаў гадоў. Нашыя продкі адзначалі яго не заўсёды ў ноч з 31 сьнежня на 1студзеня. Раней гэтае сьвята зьвязвалі з пачаткам земляробчых працаў. Масавыя гуляньні, маскарады і карнавалы увасаблялі адраджэньне прыроды, перамогу жыцьця і свабоды над сіламі сьмерці і разрухі.

Па лацінску-рымску December – дзесяты. Так называўся і дзесяты месяц старарымскага году, які пачынаўся да рэформы календара Юліем Цэзарам з сакавіка. Пасьля пасоўваньня Юліем пачатку году на студзень (з 1 студзеня 45 года да н. э. ці да нараджэньня Хрыста), сьнежань стаў дванаццатым, апошнім месяцам году. У Паўднёвым паўшар'і Зямлі – гэта летні месяц. У Паўночным— зімні. Лацінская назва месяцу - janua, азначае «дзверы» ці "пачатак". Вобраз старажытнарымскага бога Януса як бы увасабляе граніцу паміж новым і старым. Адзін яго твар (старэчы) азіраецца назад, другі (юначы) скіраваны ў будучыню.

З моманту ўвядзеньня Хрысьціянства як дзяржаўнага веравызнаньня кіеўскім князем Уладзімірам у 988 годзе ўсходнія славяне (у тым ліку і беларусы) карысталіся юліанскім календаром і лічылі 1 сакавіка дзесьці 500-сот гадоў пачаткам году. Па прыкладу ўсходняй часткі Рымскай імперыі – Візантыі. У 1492 годзе, у Масковімі (цяперашняй Расеі) Вялікі князь Маскоўскі Іван III афіцыйна перанёс Новы год на 1 верасьня і там так было больш чым дзьвесьце гадоў. А яшчэ з VII в. па Нараджэнні Хрыста (гэта значыць нашай эры) дата 1 сакавіка 5508 г. да нараджэння Ісуса Хрыста была афіцыйна прынятая ў якасці пункту адліку існаваньня зямнога сьвету—гэта значыць ад стварэньня біблейскага Адама Богам.

1 верасьня 7208 г. (ад Стварэньня сьвету) ў Расеі адсьвяткавалі як і звычайна чарговы Новы год. А 19 сьнежня 7208 г. быў абвешчаны ўказ цара Пятра I аб тым, што замест 1 студзеня 7209 году ад стварэньня Богам сьвету трэба лічыць 1 студзеня 1700 году ад нараджэньня Хрыста. Такім чынам, 1699-ы год стаўся для Расеі самым кароткім, бо цягнуўся ўсяго чатыры месяцы – з верасьня па сьнежань. Вялікае Княства Літоўскае — наша беларуская сярэднявечная дзяржава — перайшло на студзеньскі стыль у 1550 годзе.

З-за недакладнасьці юліанскага календара кожныя 128 гадоў у ім з-за "лішніх мінут" з гадамі накапляецца адзін "лішні" день. Узамен старога юліанскага календара папа рымскі Грыгорый XIII у каталіцкіх краінах увёў рэфармаваны – грыгарыянскі каляндар, каторым мы ўсе цяпер і карыстаемся.

Памылка ў адныя суткі ў ім накопліваецца прыкладна за 3200 гадоў. Дык вось, наступным днём пасля чацьвярга 4 кастрычніка 1582

году стала пятніца 15 кастрычніка. У тыя часы беларусы, што жылі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, перайшлі таксама на грыгарыянскі каляндар. У Расеі увялі замест папярэдняга юліанскага (Стары стыль) грыгарыянскі каляндар (Новы стыль) толькі 24 студзеня 1918 году, у адпаведнасьці з якім была ўведзена і папраўка ў 13 накопленых за стагодзьдзі сутак.



І нарэшце аб праваслаўных Калядах. Яны сьвяткуюцца прыкладна так як і каталіцкія, але ў іх усё на 13 дзён пазьней. Заходняя (лацінска-каталіцкая) з цэнтрам у Рыме і ўсходняя (грэцка-праваслаўная) з цэнтрам у Канстанцінопалі-Візантыі галіны Хрысціянства праклялі адна адну і канчаткова раскалоліся к 1054 году.

Руская Праваслаўная Царква сябе лічыць пераемніцай Візантыі. У богаслужэньні яна дагэтуль карыстаецца юліанскім календаром, што прыйшоў да нас у X стагодзьдзі з Канстанцінопаля-Істамбула. У сувязі з нарастаючай розьніцай паміж юліанскім і грыгарыянскім календарамі, праваслаўныя цэрквы, што карыстаюцца юліанскім календаром, напрыклад, у 9901 годдзе нараджэньне Хрыста будуць сьвяткаваць ужо 8 сакавіка (па грыгарыянскаму календару), хаця ў юліянскім календары дадзены дзень будзе адпавядаць 25 сьнежню.

Адылі дата нараджэньня Хрыста на самай справе невядомая. Сьвяту Раства папярэднічае строгі пост - рытуальнае ўстрыманьне ад прыняцьця стравы ці яе абмежаваньне. Праваслаўнае Раство адзначаецца ў ноч з 6 на 7 студзеня по грыгарыянскаму календару.

У беларусаў Першай Поснай Куцьцёй (6 студзеня) пачынаюцца Сьяткі — два тыдні зімніх сьвятаў, што працягваюцца аж да Вадохрышча, якое Руская Праваслаўная царква адзначае 19 студзеня. З вечара на Куцьцю пачынаюць калядаваць – ходзяць па хатах, сьпяюць хвалебныя песьні Богу. Вячэраюць сочывам ці куцьцёй — зернем размочанай пшаніцы з мёдам і садавінай. У Сьвяткі людзі займаюцца рознымі спосабамі гаданьнем далейшага свайго лёсу.

Пасты́ ў гэтыя дні няма. Самымі пэўнымі гаданьнямі лічацца на Васільле - 14студзеня. Гэта у першы дзень Старога Новага году значыць – пачатак Новага году па юліянскаму календару. Стары Новы год шырока адзначаецца на прасторах былога СССР. У цэрквах у час Калядаў адбываюцца літургіі – дзействы паводле біблейскіх падзеяў, падзякі Хрысту за жыцьцё ва ўсіх яго праяўленьнях.

## ЗІМОВЫЯ НАРОДНЫЯ СЬВЯТЫ

СТУДЗЕНЬ.

1. Новы год. Вялікае Княства Літоўскае — наша сярэднявечная дзяржава — перайшло на студзеньскі стыль у 1550 г., Расія — з 1700 г.

6. Першая, Посная куцця. Перадкалядная вячэра. Які дзень, такі і год. Тры Каралі. Католікі праводзілі маскіраваны абрад “Тры каралі” або “Гэроды”.

7. Божае Нараджэнне. Пачатак Каляд. “Ой, Калядачкі, бліны-ладачкі...”. Калядавалі. Насілі “звязду”. Паказвалі батлейку. На Каляды праводзілі ігрышчы (“вадзілі казу”, “жанілі Цярэшку”, “пяклі ката”, гулялі ў “Яшчура” і інш.).

8. Зімні пакроўчык, Маладзёны (Бабіны). Частавалі бабу-пупарэзніцу.

9. Сцяпан. “На святога Сцяпана вышэй слуга за пана”.

13. Шчодрая куцця. Пачатак Шчодрага тыдня. “Мароз, хадзі куццю есці”.

14. Васілле. Новы год па праваслаўным календары. “Сею, сею пасяваю, з Новым годам вас вітаю”.

17. Марк. Калі на Марка пакласці ў зямлю на кароткі час насенне морквы, то летам яно хутчэй прарасце.

18. Трэцяя, Галодная, Вадапосная куцця. Апошнія дні Каляд. "Каляда ад'язджае".

19. Вадохрышча (Кшчэнне). "Святое Кшчэнне ваду ксціла... свет ачысціла і ваду наверх пусціла". "На Вадохрышча завіруха — на Вялікдзень таксама".

20. Прывадохрышча — заканчэнне Каляд. Пачатак Малой Вясельніцы (да посту).

24. Аксіння. "Аксіння дарогу перамяце, а корм падмяце". Фядос. "На Фядоса цёпла".

25. Таццяна. Свята студэнтаў. Павел.

31. Апанас, Гусінае свята. Свята свойскай жывёлы. "Хавай нос у апанасаўскі мароз".

ЛЮТЫ

1. Ігнат. "На святога Ігната зіма багата".

2. Грамніцы, Стрэчанне. "Калі на Грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, то на Юр'я наесца вол травіцы", "Грамніца — хлебу палавіца...".

5. Агата. Каровіна свята. "Хлеб і соль святой Агаты не пусціць бяды да хаты".

6. Аксіння Паўзіміца. "На Аксінні мяце". Дарота. "Па Дароце высахнуць хусты на плоце".

11. Ігнат. "Ігнат Грамніцам рад".

14. Трыфан. "На Трыфана зорна — вясна позняя". Валянцін. Свята закаханых.

15. Грамніцы, Стрэчанне. "Зіма з летам сустракалася...", "На Грамніцы палавіна зіміцы".
18. Агата. Каровіна свята.

21. Пятро. "Калі на Пятра цёпла, зіма працягнецца да Вялікадня". Рабы тыдзень, Вясельніца, Развітальны тыдзень. Тыдзень перад Масленіцай.

23. Прохар. "Ласі скідаюць рогі", "Прыйшоў Прохар ды Улас — скора вясна ў нас". Лыся серада. Праталіны-залысіны.

24. Уласcе. Свята жывёлы. Мацей. "На Мацея дарога пацее", "На Мацея адліга — будзе мароз". Блакітны чацвер. Тумановы дзень.

25. Масляныя Дзяды, Дзедава пятніца.

26. Фаціння. Заступніца ад хвароб. Дзедава субота (Бабы). "Дзяды не зналі бяды, а ўнукі зазналі мукі".

27. Масленіца. Гуканне вясны. Пачатак Сырапуснага тыдня. "Сей пшаніцу ва ўсю руку, калі Масленіца ў маладзіку".

# ВЯЧКА ЦЕЛЕШ: НА МЯНЕ ПРАЦАВАЎ УВЕСЬ САВЕЦКІ САЮЗ



*Як у яго апынулася асадка Караткевіча, а таксама чаму Барадулін папрасіў за падарунак 15 капеек, распавёў «Звяздзе» рыжскі мастак з трывалымі беларускімі каранямі.*

У Латвію Вячка Целеш прыехаў у пошуках працы 19-гадовым юнаком. У той час, прызнаўся, цярпець не мог беларускую мову, размаўляў выключна па-руску. Цяпер жа, з вышыні пражытага, дзякуе Богу, што сустрэў на сваім шляху людзей, якія абудзілі ў ім беларуса. Сярод тых, хто заразіў сваёй беларускасцю, многімі любімыя Уладзімір Караткевіч, якога 30 гадоў таму забрала «Ладдзя роспачы», і Рыгор Барадулін, які сышоў «У неба пехатою» сёлета.

## «КАРАТКЕВІЧ УЗРАДАВАЎСЯ, КАЛІ ЎБАЧЫЎ НА ПАШТОЎКАХ СВАЮ ОРШУ»

Уладзімір Сямёнавіч любіў адпачываць у Юрмале ў Доме творчасці пісьменнікаў. Менавіта там Вячку Целешу і выпала магчымасць пазнаёміцца з аўтарам «Каласоў пад сярпом тваім».

- З Караткевічам мяне пазнаёміў мой сябра Сяргей Панізнік. У той дзень Уладзімір Сямёнавіч падпісаў мне сваю кнігу. Я ж набраўся смеласці і прапанаваў яму памяняцца асадкамі.

Пісьменнік з задавальненнем згадзіўся. Доўгі час я беражліва захоўваў тую асадку як памятку аб першай сустрэчы. Чатыры ж гады таму перадаў яе ў дар музею Караткевіча.

Ужо на той час у Вячаслава Целеша была дастаткова вялікая калекцыя старых паштовак з краявідамі Беларусі.

- Я паказаў Караткевічу тыя, што з выявамі яго роднай Оршы. Уладзімір Сямёнавіч быў у вялікім захапленні. Сказаў: «Мой сябар Адам Мальдзіс таксама збірае паштоўкі. Прыедзеш у Мінск, я цябе з ім пазнаёмлю». І стрымаў сваё слова... У даследчыка сапраўды была досыць багатая калекцыя паштовак з відамі Мінска, некаторыя з іх я нават атрымаў у падарунак. Менавіта Адам Мальдзіс, як ён сам кажа, сасватаў мяне з выдавецтвам «Беларусь». Завёў мяне туды, я паказаў паштоўкі, і яны згадзіліся іх надрукаваць. Спачатку выйшаў альбом «Мінск на старых паштоўках». Праз 14 гадоў, якраз на маё 60-годдзе, выдалі кнігу «Гарады Беларусі на старых паштоўках». Яна ўжо вытрымала ажно тры перавыданні. Цяпер рыхтуецца чацвёртае, дапоўненае. У ім будзе ўжо не 600 старых паштовак, а звыш 800.

Падчас працы над гэтай кнігай Вячка Целеш аб'ехаў амаль усю Беларусь. Спыняўся ў гатэлях і шукаў мясціны, адлюстраваныя на старых выявах, параўноўваў з рэчаіснасцю, даследаваў гісторыю кожнага будынка, вуліцы...

- На мяне працаваў увесь Савецкі Саюз, - усміхаецца калекцыянер. - Меў карэспандэнтаў у Харкаве, Уладзівастоку, Таліне, Маскве, Ленінградзе... Яны калекцыянавалі паштоўкі з гарадамі Расіі, Украіны, а ў Латвіі ў тыя гады старых паштовак з відамі гэтых рэспублік было шмат. Узамен мне дасылалі Рыгу і Беларусь.

Калі паступіў у Акадэмію мастацтваў, у мяне ўжо было двое дзяцей. Жонка не працавала, таму, каб неяк пражыць, я пасля вучобы бег на падпрацоўкі. Грошы аддаваў жонцы, з якіх яна выдзяляла мне рубель на абед. Я ж, як правіла, спускаў свае абедзенныя грошы на паштоўкі і часцяком хадзіў галодным.

«НОВЫ ГОД З ДЗЯДЗЬКАМ РЫГОРАМ СУСТРАКАЛІ СЕМ'ЯМІ»

«Хоць я жыву ў Латвіі больш як 50 гадоў, гэта ўжо другая радзіма, але ўсё ж мае карані, мая любоў - на беларускай зямлі», - кажа спадар Вячка. І гэта, паверце, не пустыя словы. Справы, якія на карысць Беларусі зрабіў апантаны і неабыякавы зямляк, можна пералічваць бясконца. Менавіта дзякуючы яму ў Рызе 20 гадоў таму з'явілася дзяржаўная беларуская школа, аб'яднанне мастакоў-беларусаў Балтыі «Маю гонар», латвійскае таварыства беларускай культуры «Світанак»...

Вельмі шчаслівы, што выдаў летась у Мінску кнігу пра свой радавод «Адсюль наш род - тут мой прычал». Пад адным «дахам» (вокладкай) аб'яднаў паўтысячы Целешаў з розных мясцін свету, што паходзяць з яго радзімы - сучаснага пасёлка Краснасельскі, што на Ваўкавышчыне.

- Мяне заўсёды цікавіла гісторыя, але ж па адукацыі я мастак. Таму, вядома, хацелася б паспець яшчэ напісаць кнігу «Мой шлях у мастацтва». Распавесці пра тых людзей, без якіх я б быў не я. Адзін з іх - Уладзімір Караткевіч.

Калі Уладзімір Сямёнавіч быў у мяне дома, я яму падараваў сваю карціну. На ёй восеньскае дрэва. Неўзабаве атрымаў ад яго ліст: «Вячка, твая купіна, як сонца гляне ў мой пакой, проста палае». Караткевіча я не паспеў намаляваць. Збіраўся ўсё... Калі ён у Дубултах адпачываў, у пакойчыку з балконам і з відам на мора, я нават паспеў зрабіць накіды лямпы, стала... Думаў намаляваць яго на фоне мора. Але так і не паспеў нічога зрабіць. Адзінае, што я яму экслібрыс прысвяціў на 50-годдзе. Надрукаваў недзе 100 ці 200 экзэмпляраў. І даслаў яму па пошце. У адказ атрымаў: «Вячка, я б наклеіў на ўсе кніжкі, але ж не хапае. Ці можаш яшчэ надрукаваць?» Яму розныя мастакі прысвячалі экслібрысы, але казаў, што мой найбольш спадабаўся.

Памятаю, як ён прыехаў з жонкай Валянцінай у Рыгу. Папрасіў мяне, каб я звазіў іх у музей пад адкрытым небам. Разам з намі тады былі таксама Алег Лойка з жонкай, Сяргей Панізнік ды Мірдза Абала. Гарачыня стаяла несусветная. Калі праходзілі ля возера, Караткевіч звярнуўся да мяне: «Вячка, пайшлі пакупаемся, а то горача». Такі худы быў. Яму было крыху больш за 50 гадоў, а выглядаў на ўсе 70. Ён ужо тады моцна хварэў. Па дарозе на вакзал запрасіў іх у «Беларускую хатку», у мяне раней была майстэрня ў самым цэнтры Рыгі. «Вячка, куды там, горача», - адмахнуўся ад прапановы Караткевіч. Я ж не адступаў: «Зойдзем, паглядзіце хоць...». Я ўзяў бутэлечку лікёру, зрабіў кавы. Уладзімір Сямёнавіч ужо ні грама не браў.

Менавіта падчас той сяброўскай сустрэчы Караткевіч напісаў у гасцявой кнізе Целеша дасціпныя радкі, якія да таго ж яшчэ і праілюстраваў.

- Намаляваў, як я вылажу з краснасельскай крэмнездабыўнай шахты з фарбамі ў руках, а таксама сябе і сваю жонку «ледзь не на карачках».

На наступны год я прыязджаў у Мінск, праведваў Уладзіміра Сямёнавіча з мастаком Валерыем Дзевіскібам. Ля яго ложка было настаўлена процьма лекаў. Піў іх пастаянна. Як цяпер памятаю, дастаў бутэльку гарэлкі, шклянкі і кажа: «Хлопцы, пакуль Валянціна яшчэ ў магазіне, выпіце». Ён гатовы быў аддаць усё да апошняга. Вельмі добры быў чалавек, заўсёды вясёлы, добразычлівы, адкрытая душа.

У Доме літаратара была вечарына, мы з Сяргеем Панізнікам прыйшлі туды. Там сустрэлі Караткевіча. «О, Вячка, сябра!». І абдымае. Які я сябар? Для мяне Уладзімір Сямёнавіч - велічыня. Тым больш старэйшы за мяне на 8 гадоў. Ён быў не зорны. Свае кніжкі мне дарыў з надпісамі. Шмат не пісаў. Напрыклад, «Князю Вячку, каб стаяў на рубяжы».

Барадулін таксама завітваў да мяне ў майстэрню. Яго верш ёсць у кнізе водгукаў. Цудоўны чалавек быў. Мне нават пашчасціла з ім аднойчы Новы год сустрэць. Прыехаў з жонкай Валянцінай у Рыгу, у гатэлі спыніўся і патэлефанаваў мне. Кажу: «Дзядзька Рыгор, дык давайце да мяне едзьце, будзем разам сустракаць Новы год».

Што цікава, з ім мяне пазнаёміў таксама Сяргей Панізнік. У той час я быў у яго дома, ва Уруччы. Тады туды ненадоўга завітаў Рыгор Барадулін. Падарыў мне складны ножык. Пытаецца: «15 капеек ёсць? Купі. Бо дарыць нож сябрам нельга - сімвал варожасці». Потым падарыў мне яшчэ гальштук - вязаны, з арнаментам. Гэта быў вельмі шчыры чалавек і геніяльны паэт. Каб так пісаць вершы экспромтам...

«У ЛАТВІІ ЗАДУМАЎСЯ: ХТО Я?»

Спадар Вячка, аказваецца, калекцыянаваў не толькі паштоўкі, але і аўтографы на паштоўках. Прызнаўся, што пра гэта сваё захапленне журналістам ніколі яшчэ не распавядаў. Мне ж паказаў нават альбом, дзе аўтографы Шолахава, Барыса Палявога, Гурчанкі, Ноны Мардзюковай, Ралана Быкава... Сярод славутасцяў, што прыемна, нямала з беларускімі каранямі: Царашкова, Шастаковіч, Зоська Верас, Пімен Панчанка, Сяргей Пяюн... «Дарэчы, паглядзіце: Пятрусь Броўка, у адрозненне ад Максіма Танка, падпісаў картачку на рускай мове», - звяртае ўвагу спадар Вячка.

- Я адкрыта гавару: раней не цярпеў беларускую мову. Хоць маці з бацькам па-беларуску ў хаце размаўлялі, але ж вучыўся я ў рускай школе. Настаўнік беларускай мовы сваім выкладаннем, на жаль, не прывіў любоў да мовы, наадварот, адбіў усялякае жаданне гаварыць па-беларуску. Слухаць яго было нецікава. Ён гэта бачыў, таму час ад часу падымаў то аднаго, то другога: «Устань, пра што я толькі што казаў? Ну дык аб чым ты думаеш? Аб салодкіх крэндзелях ці аб нябесных фіялках?» Пасля гэтых слоў увесь клас смяяўся, бо голас у яго быў працяжны, непрыгожы, нейкі пісклявы. Мова асацыявалася ў мяне з ім, таму і размаўляў па-руску. Больш за тое, у той час распаўсюджвалі меркаванне, што руская мова перспектыўная. А з беларускай цяжка ўладкавацца на працу, цяжка пазнаёміцца з дзяўчынай...

Ужо калі вучыўся ў Латвійскай акадэміі мастацтваў, пазнаёміўся з беларускай інтэлігенцыяй - Аляксеем Марачкіным, Яўгенам Кулікам і Міхасём Чарняўскім. Яны ўсе гаварылі па-беларуску, таму я сярод іх быў белай варонай. Тады і задумаўся: хто я? Дарэчы, менавіта ад латышоў навучыўся размаўляць па-беларуску, цаніць сваю мову, сваю гісторыю, культуру, бо яны - ці гэта педагог, ці студэнт, ці просты рабочы (да паступлення ў Акадэмію я ж працаваў на Рыжскім цэментным заводзе слесарам) - ніколі паміж сабой на іншай мове не размаўляюць. Толькі па-латышску. На мяне ж нават цяпер, калі прыязджаю ў Беларусь, многія глядзяць, як на дзівака, калі гавару па-беларуску....

Размаўляла: Надзея Дрыла

Крыніца: газета “Звязда”, zviazda.by.

# БЕЛАРУСЬ І ЛЕТУВА: Ў ПОШУКАХ ГІСТАРЫЧНАГА КАМПРАМІСУ Ў СПАДЧЫНЕ ВКЛ

КІРЫЛ КАСЦЯН

Калісьці ў сваім інтэрв'ю беларускі гісторык др. Алесь Краўцэвіч разважаў пра выкарыстанне тэрмінаў *Летува* і *летувіс(ы)* датычна сённяшняй нацыянальнай дзяржавы гэтага балцкага народу. Ён адзначыў, што ў такі спосаб ён аддзяляе "гістарычную Літву ад сучаснай Летувы", бо "з этнічнага пункту гледжаньня гэта было абсалютна іншае ўтварэнне, чым сучасная Летува". Краўцэвіч падкрэсліваў, што выкарыстанне двух тэрмінаў не нясе аніякай негатыўнай канатацыі і ёсць "тэхнічным пытаннем, каб аддзяліць" і падаць аб'ектыўнейшую карціну тагачаснай гісторыі.

Сапраўды, датычна сучаснай паўночна-заходняй суседкі Беларусі ў беларускамоўнай прасторы ўжываюцца два тэрміны "Літва" і "Летува", а таксама адпаведна "літоўцы" і "летувісы" дзеля абазначэння яе тытульнай нацыі. Пры гэтым, аргументацыя тых, хто выкарыстоўвае тэрмін "Літва" можа палягаць на розных прычынах – ад спасылкі на традыцыйнасць ужывання гэтага назову ў афіцыйным стандарце беларускай мовы яшчэ ад савецкіх часоў, простага нежадання сварыцца з суседзямі да адмовы беларусам у наяўнасці ўласнай дзяржаўнасьці ў гісторыі. Пры гэтым, такое выкарыстанне не адрознівае гістарычную Літву, дзяржаўнасць якой скончылася разам з падзеламі Рэчы Паспалітай яшчэ ў данацыянальныя часы, ад сучаснай нацыянальнай дзяржавы на паўночны захад ад Беларусі. Варта заўважыць, што хіба што большасць тых, хто выкарыстоўвае аднолькавы тэрмін "Літва", як у гістарычным, так і ў сучасным кантэкстах, згодныя з фактам змены значэння гэтага паняцця цягам гісторыі, прымаючы тэзу пра тое, што з этнічнага пункту гледжаньня гэта былі абсалютна розныя ўтварэнні. Аднак, выкарыстанне аднолькавага тэрміну ў гістарычным і сучасным кантэкстах не дазваляе "аддзяліць", а наадварот спрыяе таму, што ўсе дзеі гістарычнай Літвы хай сабе і міжвольна прысвайваюцца сучаснай Летувой.

Таму, у гэтым тэксце мы паспрабуем разабрацца, чаму ў беларускай мове варта пашыраць выкарыстанне тэрміну "Летува" і "летувісы", датычна сучаснай нацыянальнай дзяржавы на паўночны захад ад Беларусі.

## ЗАМЕЖНЫ ДОСВЕД НА ПРАСТОРАХ АБ'ЯДНАНАЙ ЕЎРОПЫ




*Параўнальная мапа тэрыторыяў Вугорскага каралеўства і сучаснай Вугорскай рэспублікі*

Падобная праблематыка выкарыстання розных назваў для абазначэння данацыянальных і ўзніклых на іх рэштках нацыянальных краінаў не ёсць выняткова беларускай праблемай. Найяскравейшым прыкладам ёсць шматнацыянальная дзяржаўная фармацыя ў цэнтры Еўропы – Вугорскае каралеўства (*Regnum Hungariae*) як асобна, так і як частка Аўстра-Вугоршчыны (*Österreichisch-Ungarische Monarchie*). Назва гэтай дзяржавы ў мовах розных славянскіх народаў, якія калісьці мелі дачыненне да гэтай фармацыі, адрозніваецца ад назвы нацыянальнай дзяржавы вугорскага народу, якая існуе на частцы тэрыторы былой шматнацыянальнай краіны. Гэтая нацыянальная дзяржава да 2011 году афіцыйна называлася Вугорскай рэспублікай, а пасля прыняцця новай Канстытуцыі – проста Вугоршчынай. Зірнем у табліцу, якая паказвае гэтыя назвы ў розных мовах:

| Мова | Вугоршчына (каралеўства) | Вугоршчына (рэспубліка) |
|---|---|---|
| Чэшская | Uhersko | Maďarsko |
| Славацкая | Uhorsko | Maďarsko |
| Горналужыцкая | Wuherska | Madźarska |
| Сербская | Угарска | Мађарска |
| Харвацкая | Ugarska | Mađarska |
| Славенская | Ogrska | Madžarska |

З табліцы вынікае, што гэтыя мовы робяць розніцу ў назве шматэтнічнай дзяржавы, якой было Вугорскае каралеўства да 1918 г., і навапаўсталай вугорскай нацыянальнай дзяржавай. Логіка такога падзелу палягае ў тым, што навапаўсталая нацыянальная дзяржава займае толькі трацiну былога шматэтнічнага каралеўства і месціцца на землях, якія ёсць тэрыторыяй рассялення вугорскай нацыі, прадстаўнікі якой самі сябе называюць мадзярамі (адз.л.: *magyar*, мн.л.: *magyarok*), а сваю краіну – *Magyarország* незалежна ад гістарычнага кантэксту. Варта зазначыць, што хоць іншыя мовы (у тым ліку ангельская і нямецкая) не ведаюць розніцы паміж Вугоршчынай і "Мадзяршчынай", лексіка-семантычныя значэнні для прыметнікаў "вугорскі" і "мадзярскі" ў гэтых мовах адрозніваюцца.

## АДМОВА АД АБЭЦЭДАРШЧЫНЫ

Ужыванне тэрміну *Летува* ў беларускай навуцы мае доўгую традыцыю датычна нацыянальнай дзяржавы гэтага балцкага народу (Ян Станкевіч, Паўла Урбан, Вітаўт Тумаш і іншыя). Падобна як і ў выпадку з мадзярамі, тэрмін Летува паходзіць ад саманазвы нацыянальнай дзяржавы (*Lietuva*), а "летувісы" – ад саманазвы тытульнай нацыі (адз.л.: *lietuvis*, мн.л.: *lietuviai*). Зазначым, што форма ўтварэння множнага ліку, т.б. "летувісы", падобная да выпадку з "мадзярамі" – інакш кажучы, яна ўтвараецца з дапамогай канчатку множнага ліку, уласцівага беларускай мове. Логіка за такім разрозненнем выглядае стоадсоткава падобнай да логікі славянскіх народаў тэрыторыі былога Вугорскага каралеўства – летувіская нацыянальная дзяржава, абвешчаная ў 1918 годзе, займала толькі малую частку былога шматэтнічнага княства і месцілася выключна на землях, якая ёсць тэрыторыяй рассялення летувіскай нацыі.

Аднак, у адрозненні ад чэшскай і славацкай гістарычных навукаў, беларуская гістарычная навука, як справядліва падкрэслівае Паўла Урбан:

> *доўгі час ня мела ўласнага незалежнага погляду на гісторыю Вялікага Княства Літоўскага й мусіла працаваць у рэчышчы расейскіх прапагандысцкіх стэрэатыпаў. За гэты час у Летуве былі створаныя й пашыраныя канцэпцыі, паводле якіх летувісы ёсьць адзіныя спадчыньнікі Княства, а беларусы ня маюць да ВКЛ ніякага дачыненьня. Пра заваёвы "літоўскіх князёў" і захоп імі "рускіх земляў" пісалі таксама польскія гісторыкі, паўтараючы, што ў Вялікім Княстве палітычна панаваў летувіскі этнічны элемэнт.*

Ва ўмовах савецкай дзяржавы з яе адзінай ідэалагічнай лініяй ў сферы гісторыі гэта азначала не проста адмову беларусам у іх гістарычнай дзяржаўнасці, але і прасоўванне ў масы гісторыі, якой насамрэч не было, што, зразумела, цягам некалькіх пакаленняў не магло не паўплываць на нацыянальную ідэнтычнасць. Дарма казаць, што менавіта з гэтай прычыны развіццё адпаведных тэрмінаў на чэска-славацкі манер датычна "Літвы" і "Летувы" адбывалася на эміграцыі.

## АДПАВЕДНАСЦЬ КАНСТЫТУЦЫЙНАМУ ЗАКАНАДАЎСТВУ

Такім чынам, мы бачым, што ўжыванне тэрміну *Летува* ў беларускай гістарычнай навуцы мае не толькі лагічнае абгрунтаванне, але і адпавядае еўрапейскаму досведу датычна асэнсавання спадчыны шматэтнічных данацыянальных дзяржаўных фармаванняў.

Акрамя таго, яно адпавядае юрыдычнаму асэнсаванню гістарычнай Літвы ў беларускім праве. У Другой і Трэцяй Ўстаўных граматах БНР "далюблінскі" перыяд гісторыі Беларусі, а ў трэцяй і знаходжанне беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай, трактуюцца як часы, калі беларускія землі былі "вольным і незалежным краем". Падобны падыход можна знайсці і ў сучаснай беларускай Канстытуцыі, якая кажа пра "шматвяковую гісторыю развіцця беларускай дзяржаўнасці". І хоць канстытуцыйныя акты БНР і Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь не кажуць пра наўпроставую пераемнасць паміж ВКЛ і БНР ці Рэспублікай Беларусь, але такія фармулёўкі дазваляюць разглядаць ВКЛ як адну з формаў гістарычнай дзяржаўнасці беларускага народа. У сваю чаргу, фармулёўка Канстытуцыі БССР 1978 г., згодна з якой, БССР разглядалася як першая ў гісторыі беларуская дзяржаўнасць, "здабытая з дапамогай рускага пралетарыяту", адпавядае згаданай Паўлам Урбанам тэзе пра тое, што беларуская навука была пазбаўленая незалежніцкага погляду і мусіла адпавядаць савецкім прапагандысцкім стэрэатыпам, выхоўваючы грамадзянаў, якія ведалі гісторыю, якой не было, што ў адпаведны спосаб фармавала іх ідэнтычнасць.

Адсюль вынікае, што разглядаючы гістарычную Літву як адну з формаў гістарычнай дзяржаўнасці беларускага народа і называючы па-беларуску такім самым чынам нацыянальную дзяржаву суседняга народу, мы супярэчым звычайнай логіцы, што можа быць сфармулявана ў форме пытання – “калі гістарычная Літва была адной з формаў гістарычнай дзяржаўнасці беларускага народу, то чаму зараз гэтым імем называецца суседняя дзяржава іншага народу?”

ПАКРЫЎДЖАНЫ СУСЕД?

Дарма казаць, што гэты погляд на гісторыю з распаўсюдам назвы Летува ў тым ліку і на афіцыйную беларускую мову можа (і будзе) мець шмат апанэнтаў з абодвух бакоў мяжы. Чамусьці ўся аргументацыя беларускіх апанентаў ужывання тэрміну Летува зводзіцца зазвычай да абвінавачванняў ва ўяўнай неабазананасці ў беларускай ці летувіскай лінгвістыцы, нацыяналізме, гістарычным рэвізіянізме і нянавісці да суседняга народу. Такім людзям дарма тлумачыць чысты функцыяналізм выкарыстання тэрміну, які, як слушна адзначыў др. Алесь Краўцэвіч, не нясе ніякай негатыўнай канатацыі, а мае выключна тэхнічныя прычыны, каб аддзяліць два паняцці з розным зместам. Пры гэтым, ужыванне такой тэрміналогіі не азначае адмаўлення летувіскаму народу і дзяржаве ў спадчыне ВКЛ.




*Юбілейная манета наміналам 10 літаў, выпушчаная ў 1938 г. з нагоды 20-годдзя незалежнасці Летувы*

Варта зазначыць, што гэтая спадчыннасць адлюстраваная ў канстытуцыйных актах першай і другой Летувіскай рэспублікі. Так, дэкларацыя незалежнасці 1918 г. прынятая ад імя Тарыбы, што называла сябе адзіным прадстаўніком летувіскага народу, абвяшчала аднаўленне незалежнай дзяржавы з Вільняй у якасці сталіцы. Падобна, сучасная Канстытуцыя Летувы падкрэслівае, што менавіта летувіскі народ “шмат вякоў таму стварыў Летувіскую дзяржаву” і што “яго [народу] прававы фундамент грунтуецца на Літоўскіх Статутах”. Акрамя таго, у Канстытуцыі падкрэсліваецца, што сталіцай Летувіскай дзяржавы з'яўляецца горад Вільня – “шматвяковая гістарычная сталіца Летувы”. Гэтыя юрыдычныя акты такім чынам скіраваныя на замацаванне прававой пераемнасці паміж Вялікім княствам Літоўскім і Летувіскай Рэспублікай.

Зразумела, што маленькай краінай з насельніцтвам, меншым за тры мільёны, і вельмі складанай гісторыяй адносінаў з суседнімі народамі і дзяржавамі цягам апошніх ста гадоў пытанні ідэнтычнасці адчуваюцца вельмі востра. Магчыма, менавіта таму ў напісаным народным пісьменнікам ЛетССР Антанасам Венцлавам гімне Летувіскай СССР, у межах якой і канчаткова сфармавалася сучасная тэрыторыя краіны, ёсць радкі, што адмыслова згадваюць Вільню і Балтыйскае мора (Kur Vilnius, kur Nemunas, Baltijos jūra, ten klesti mūs miestai, derlingi laukai – Дзе Вільня, дзе Нёман, Балтыйскае мора, там квітнеюць нашы гарады, урадлівыя нівы), называючы гэтыя тэрыторыі са складанай гісторыяй.

Пэўна, змены на беларускім баку ў пашырэнні выкарыстання назвы Летува датычна суседняй краіны могуць выклікаць крыўды на летувіскім баку. Але гэтыя змены ніяк не ўплываюць на змест бачання ВКЛ у канстытуцыйным заканадаўстве Летувы, як зрэшты, магчымыя крыўды не будуць мець ніякага ўплыву на трактаванне ВКЛ у канстытуцыйным заканадаўстве Беларусі. Больш за тое, змена назвы не выключае магчымасцяў для канструктыўнай супрацы і дыялогу на прынцыпах узаемапавагі і ўзаемаразумення. Наадварот, прыняцце агульнага гістарычнага мінулага па формуле “сучасная Беларусь і сучасная Летува ёсць нашчадкамі гістарычнай Літвы” можа спрычыніцца да шырэйшага гістарычнага ўзаемапаразумення краінаў і народаў і знікнення дагэтуль існых упярэджанняў ці нават фобіяў датычна адно аднаго.

Крыніца: thepointjournal.com

# АЛЕСЬ КРАЎЦЭВІЧ: БЕЛАРУСАМ ПАТРЭБЕН ЗДАРОВЫ НАЦЫЯНАЛІЗМ

*Днямі ў Менску прайшла прэзэнтацыя новай кнігі Алеся Краўцэвіча «Краіна пагранічча», у якой знаны гісторык дасьледуе фэномэн знаходжаньня беларусаў на культурным і палітычным памежжы. Ён — госьць перадачы "Вольная студыя" Беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода". Гутарку вядзе журналіст Міхась Скобла.*

Аляксандр Краўцэвіч

**КРАІНА ПАГРАНІЧЧА**



Міхась Скобла: Алесь, дык чаго больш дае Беларусі гэтая сытуацыя пагранічча — шкоды ці карысьці?

Алесь Краўцэвіч: Як на сёньняшні дзень выглядае — больш шкоды. Мы і сёньня знаходзімся ў стане няпэўнасьці нашай дзяржавы, нашай культуры. Як і раней, не сыходзяць з парадку дня пытаньні — ці будзе беларуская дзяржава, ці застанецца беларуская культура жывой, трывалай і г. д. І ў гэтым вялікая шкода пагранічнага разьмяшчэньня. А станоўчы момант — гэта тое, што ў нас утварылася ўнікальная культура, на сынтэзе заходніх і ўсходніх уплываў і нашай самабытнасьці. Невыпадкова ў нас нарадзіўся Скарына, які першы на ўсёй гэтай прасторы надрукаваў кніжку на сваёй мове. Невыпадкова тут узьнікла найлепшая кадыфікацыя права ў Эўропе — Статут ВКЛ. Ён узьнік менавіта на пагранічччы, бо мы розных канфэсій, розных вераў, а жылі па адных законах. І гэты статут нас яднаў у адзіны народ. Са знакам мінус можна разглядаць і тое, што мы знаходзімся ў самым блізкім суседзтве з агрэсіўнай Расеяй. Палякі часта гавораць, што яны былі шчытом Эўропы, баранілі Эўропу ад Расеі. Насамрэч гэтым шчытом былі мы — Вялікае Княства, Беларусь. Ад канца XV-га да канца XVIII стагодзьдзя на нашых землях ішло змаганьне. Сюды ішлі орды маскавітаў, і тут яны спыняліся, іх тут стрымлівалі 200 гадоў. Палякі сядзелі за нашымі сьпінамі, а падчас Люблінскай уніі адхапілі палову нашай тэрыторыі.

МС: *Сытуацыя пагранічча выпрацавала ў беларусаў незвычайную талеранцыю да ўсяго чужаземнага. Да чаго прыводзіць празьмерная талеранцыя, мы сёньня бачым на прыкладзе Францыі. Ці не пара беларусам больш настойліва адстойваць сваё? Іначай «тут нам і гамон», як пісаў Уладзімер Караткевіч.*

АК: Ты маеш пэўную рацыю. Але я ўзгадаю мястэчка, дзе жылі і дзе пахаваныя мае бацькі. Нашы суседзі — каталікі, мы — праваслаўныя. Калі былі сьвяты праваслаўныя, нашы суседзі не працавалі, каб нас не пакрыўдзіць, каб паказаць нам сваю павагу. А калі наставалі сьвяты каталіцкія, то не працавалі ўжо мае бацькі. Калі памерла мая бабка, то суседзі-каталікі памагалі яе хаваць. Калі памерла бабка-суседка, то майго бацьку папрасілі несьці паперадзе працэсіі каталіцкі крыж на могілкі. З аднаго боку, гэта хораша. З другога боку, празьмерная талеранцыя прывяла да таго, што беларусы згодныя на любую ўладу, мы паддаемся любому ўціску. І гэта страшна. І тут нам сапраўды патрэбен здаровы нацыяналізм.

МС: *Але ці магчыма мэнталітэт, які фармаваўся стагодзьдзямі, зьмяніць цягам аднаго пакаленьня? Больш у нас папросту часу няма.*

АК: Я лічу, што гэта магчыма зрабіць праз мэтанакіраваную дзяржаўную палітыку выхаваньня элітаў. Беларусы 400 гадоў жылі паводле статуту ВКЛ. І таму мы адрозьніваемся па мэнтальнасьці ад тых жа расейцаў. Прыкладам, у Расеі турма — гэта бяда, як ураган ці навальніца. У беларускай мэнтальнасьці зусім іншае: турма не бывае незаслужанай. У Беларусі цяпер пашыраецца расейскі падыход у юрыспрудэнцыі, калі няма судоў справядлівых, калі міліцыянты крывапрысяжнічаюць перад судом. Гэта жахліва. Нам трэба ад гэтага пазбаўляцца. Мы маем магчымасьць зрабіць добрую рынкавую эканоміку на пагранічччы. Яе ўвесь час беларусы рабілі — і ў сярэднявеччы, і ў новыя часы. Калі ў нас будзе добры ўзровень жыцьця, калі ў нас зьявіцца выхаваная ў гонары за сваю краіну эліта, калі нашая талерантнасьць спалучыцца з павагай да законаў, атрымаецца нешта цікавае.

МС: *Яшчэ адна праява сытуацыі пагранічча*

*— уніяцкая царква. Нядаўна ў Горадні актыўна распаўсюджваліся антыўніяцкія ўлёткі, выдадзеныя ў Жыровіцкім манастыры, які належыць РПЦ. Як ты да гэтага ставісься як гісторык, як гарадзенец?*

АК: Ня будзем забываць, што функцыянэры Расейскай праваслаўнай царквы з часоў Пятра І — дзяржаўныя чыноўнікі. Яны нібы фармальна аддзеленыя ад дзяржавы, але фактычна гэта частка расейскага дзяржапарату, у тым ліку тыя, якія знаходзяцца ў Беларусі. Невыпадкова мітрапаліт Павал езьдзіць на аўто зь дзяржаўнымі расейскімі нумарамі і ня мае беларускага грамадзянства. Для РПЦ унія — як чырвоная ануча для быка. Гэта ненармальна, для мяне гэта, прабачце, як паталёгія. Нават у некаторых беларускіх патрыётаў, праваслаўных, я назіраў гэтае агрэсіўнае непрыняцьце уніі, хіба, перанятае ад расейскіх сьвятароў. Я лічу, што кожны мае права выбіраць канфэсію на свой густ. Мне падабаецца ўніяцкая царква, бо там беларуская мова дамінуе, у адрозьненьне ад каталіцкага касьцёлу ці праваслаўнай царквы. Як бы там ні было, усё роўна Расейская праваслаўная царква ў Беларусі ёсьць часткай расейскага дзяржаўнага апарату. Для беларусаў аб'яднаньне на рэлігійнай глебе не павінна быць асноўным. Беларусь — краіна пагранічча. У нас ня можа быць монарэлігіі, якая нас аб'ядняе, як расейцаў яднае праваслаўе, або палякаў — каталіцызм. Мы не павінны зьвяртаць увагу на тое, хто якой веры. Нас зьяднае ня вера.

МС: *А што?*

АК: Мова. Беларуская мова. Беларусы — мадэрная нацыя, а мадэрная нацыя — супольнасьць людзей, якія гавораць на адной мове. Мы сёньня можам пачуць ад гэтак званых палітычных патрыётаў, што ўсё гэта састарэла. Маўляў, «мы патриоты настоящие, политические, хоть и говорим по-русски». Гэта туфта. Для мяне адназначна: калі чалавек гаворыць па-беларуску — гэта грамадзянін Беларусі. Няважна, якога ён паходжаньня — грузінскага, расейскага ці кітайскага. Для мяне ён — беларус. Зь ім можна будаваць гэтую краіну. А калі чалавек мае вышэйшую адукацыю і адказвае мне па-расейску, я ня маю да яго глыбокай павагі.

МС: *Нядаўна выйшла кніга Віктара Цемушава «На ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага». Нашы продкі ўмацоўвалі тую самую мяжу. Рэспубліка Беларусь фактычна адкрытая на ўсход. А на тваю думку, якой мае быць беларуска-расейская мяжа?*

АК: Для мяне найлепшым прыкладам адносінаў зь вялікім суседам зьяўляецца Фінляндыя. Сябраваць, але мець шчыльна закрытую граніцу. Выказваць сяброўства, дэкляраваць нэўтральнасьць, але — з-за плоту. Калі Беларусь хоча ацалець як незалежная краіна, дзе жыве народ з самабытнай культурай, яна павінна быць сябрам Эўразьвязу і мець на ўсходзе такую мяжу, якую мы сёньня маем з Польшчай і Літвой. І трэба, каб нашу паветраную прастору баранілі самалёты НАТА. Вось тады Расея ніколі не асьмеліцца на нас напасьці. А так... Расейцы ў большасьці сваёй ніколі не пагодзяцца з тым, што беларусы — ня частка «русского мира». І яны будуць сюды лезьці, перакананыя, што мы іх тут чакаем з абдымкамі. І пераканаць расейцаў, што гэта зусім ня так, можа толькі калючы дрот на мяжы.

МС: *Госьцяй «Вольнай студыі» нядаўна была твая калега Сьвятлана Куль-Сяльверстава, якую разам з археолягам Генадзем Семенчуком сёлета звольнілі з Гарадзенскага дзяржуніверсытэту імя Купалы. У сувязі з гэтым зноў шмат гаворыцца пра «сьпіс Шапіры», які складаецца з шаснаццаці выкладчыкаў ГарДУ. Што стаіць за гэтым сьпісам?*

АК: Я непасрэдна ведаю ўсіх выкладчыкаў, якія былі звольненыя абсалютна беспадстаўна. Скажу адно: Сямён Шапіра вымасьціў сабе дарогу з Горадні ў Менск касьцямі гарадзенскіх гісторыкаў. Ён павінен быў давесьці свайму начальніку, што ён у Горадні спраўны. Ён ня мог гэтага зрабіць у эканоміцы. Узяўся за ідэалёгію і давёў, што хоць тут трымае ўсіх на кароткай аброці. Правёў гучную справу звальненьня гісторыкаў і па касьцях гэтых гісторыкаў трыюмфальна вярнуўся ў Менск. Гэтая справа будзе да канца жыцьця за ім цягнуцца. Звольненыя выкладчыкі не былі апазыцыянэрамі, яны былі гатовыя супрацоўнічаць з уладай, у тым ліку і Куль-Сяльверстава, якая ніколі не канфліктавала з уладай. І прафэсар Швэд таксама ня быў у канфрантацыі з уладай. Што да таго сьпісу... Памятаю, калі яшчэ я быў прарэктарам Гарадзенскага ўнівэрсытэту, КДБ падавала сьпісы «ненадзейных» тагачаснаму старшыні аблвыканкаму Дубко. Гэта звычайная практыка. КДБ сочыць за выкладчыкамі ВНУ, хто ня ў той

канфэрэнцыі ўдзельнічаў, хто ня тое сказаў на лекцыі, і студэнты данесьлі...

МС: *Ты на свае вочы бачыў тыя сьпісы?*

АК: Не, мне пра іх расказвалі. У тых сьпісах «ненадзейных» я быў на другім месцы. На першым быў Аляксандар Мілінкевіч. Такія сьпісы — даўняя бальшавіцкая практыка кантролю тых інстытуцый, якія маюць шырокі ўплыў на масавую сьвядомасьць. Паўтаруся, Сямён Шапіра штучна разьдзьмуў «справу гісторыкаў», каб яна прагучала на ўсю краіну. Яна прагучала — і ўдзячны дыктатар за ручку вярнуў яго ў Менск. Гэта подласьць з боку Шапіры.

МС: *Вернемся да кнігі «Краіна пагранічча», дзе ты дужа крытычна ацэньваеш дзейнасьць рэдактара і аўтара кніг на гістарычную тэму Анатоля Тараса. А якой павінна быць папулярная кніга па гісторыі?*

АК: Яна павінна быць найперш прафэсійнай. Хоцьнеабавязковааўтармусіцьбыцьгісторыкам. Прыгадаем сьветлай памяці Кастуся Тарасава. Яго кнігі —узор гістарычна-папулярнай літаратуры. Ці кнігі таго ж Уладзімера Арлова. Калі ж гаварыць пра Тараса, то гэта дрэнна адукаваны, але вельмі актыўны, нават агрэсіўны дзядок, які можа пісаць на любую тэму. Ён пісаў пра падводныя лодкі, пра адзінаборствы, цяпер вырашыў, што добра будуць прадавацца кнігі па гісторыі, і піша пра гісторыю. Яму ўсё роўна, пра што і на якім узроўні пісаць. Галоўнае — з дапамогай рэклямы ўпіхнуць кнігі пакупніку. А чытач, асабліва масавы, ён як дзіця. Падманваць чытача неабазнанага — як падманваць дзіця. Гэтым якраз спадар Тарас і займаецца.

МС: *Неўзабаве ў Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэце мае быць абраны новы рэктар. У сьпісе прэтэндэнтаў — і твая кандыдатура. Калі табе ўдасца перамагчы ў конкурсе, якім будзе першае распараджэньне новага рэктара ЭГУ?*

АК: Трэба будзе агледзецца на месцы. Прызнацца, я пра гэта ня думаў. Скажу хіба, што ня будзе распараджэньня, каб з заўтрашняга дня ўсе загаварылі па-беларуску. Пагляздзім. Я не хачу, каб мяне ўспрымалі такім цэрбэрам, які будзе на ўсіх брахаць. Ня трэба ніякіх рэвалюцый, трэба рабіць справу паступова, ісьці малымі крокамі, каб не паламаць лёсы людзей.

Крыніца: Праграма“Вольная студыя”беларускай рэдакцыі Радыё “Свабода”, svaboda.org.

# АЛЯКСЕЙ МАРАЧКІН: МЫ АБАПІРАЕМСЯ НА ПЕРАМОЖЦАЎ АРШАНСКАЙ БІТВЫ

«Арт-Ворша-Рубон» — пад такой назвай у сталічным Палацы мастацтва адчыняецца выстава, прымеркаваная да 500-х угодкаў Бітвы пад Воршай. У межах праграмы *“Вольная студыя” Беларускай рэдакцыі Радыё “Свабода” пра выставу распавядае мастак Аляксей Марачкін. Гутарку вядзе журналіст Міхась Скобла.*



Міхась Скобла: *Спадар Аляксей, ці ўсе творы, тэматычна зьвязаныя з Аршанскай бітвай, удалося сабраць на выставу?*

Аляксей Марачкін: На жаль, не ўсе, бо сёе-тое разышлося па музэях, як, скажам, жывапісны партрэт Канстанціна Астроскага, напісаны Гаўрылам Вашчанкам. Ён знаходзіцца ў сталай экспазыцыі Нясьвіскага замка. Няма на выставе і некаторых графічных твораў Арлена Кашкурэвіча. Прадстаўлена шмат твораў жывапісных, ёсьць інсталяцыі, прысьвечаныя гэтай слаўнай даце. Увогуле, да выставы мы рыхтаваліся цягам усяго году. А некаторыя мастакі працавалі і раней, каля сотні працаў выстаўлена, ёсьць што пагляздзець. Найперш мне хацелася б адзначыць акварэлі Міколы Купавы, які даўно ўжо працуе над гэтай тэмай. Таксама мэтафарычныя творы старшыні нашай суполкі Генадзя Драздова, там ёсьць над чым падумаць. Асабліва варта пагляздзець «Сейбіта», які раскідвае бел-чырвона-белае зерне, а над ворывам лётаюць чорныя крумкачы, якія ператвараюцца ў цмокаў, у самалёты... Нельга не заўважыць і вялікую інсталяцыю Алеся Родзіна,

яна аб'ёмная, вельмі арыгінальная і адначасова простая — фактычна як графіці ў чорна-белым варыянце. Вядома ж, ня пройдзеш міма твораў Ягора Батальёнка, Георгія Скрыпнічэнкі ці такога клясычнага твору, які «Аршанская бітва» Міхася Басалыгі. Выдатны і ягоны «Канстанцін Астроскі на кані».

МС: *На выставе прадстаўлены і ваш партрэт Астроскага. На жаль, ён вісіць высакавата, ня ўсе дэталі можна разгледзець.*

АМ: Гэты партрэт з сэрыі «Выдатныя дзеячы гісторыі і культуры Беларусі». Апрача ўсяго я хацеў там паказаць герб Астроскага. А ўнізе можна заўважыць фігуру маскоўскага ваяра, які падае. Праз гэты эпізод я паказваю перамогу Астроскага над маскавітамі. Я асабіста ўдзячны Беларускаму саюзу мастакоў, які арганізаваў гэтую выставу творчай суполкі «Пагоня».

МС: *Адзін зь нядаўніх гасьцей «Вольнай студыі», пісьменьнік Леанід Дайнэка (Аршанская бітва апісваецца ў ягоным рамане «Назаві сына Канстанцінам») правёў паралель паміж тагачаснымі падзеямі і вайной, якая ідзе ва Ўкраіне. Маўляў, за 500 гадоў захопніцкая палітыка Масквы не зьмянілася. Сваёй карцінай «Навала» вы тое самае хацелі сказаць?*

АМ: Тое самае, я цалкам згодны з Дайнэкам. Палітыка ўсходняй арды ніяк не зьмянілася. «Навала» — гэта ўжо, на жаль, ня вобраз, яна існуе ў рэальнасьці. Тое прызнаюць і нашы дзяржаўныя дзеячы. І я ня мог на гэта не адгукнуцца. У свой час Пікаса (я зь ім не параўноўваюся) напісаў сваю славутую «Герніку», калі бамбілі гэты горад у Гішпаніі. Сёньняшні канфлікт украінцаў з расейскай імпэрыяй, якая ашчэрылася на братнюю Ўкраіну, — гэта тэма вельмі для нас актуальная, яна непазьбежна будзе адлюстраваная ў творах нашых мастакоў. У часы трывожныя цені нашых слаўных продкаў паўстаюць, як абаронцы нашай зямлі. Мы на іх апіраемся.

МС: Вашу «Навалу» хочацца разгледзець падрабязна. Калі б на выставу завітаў амбасадар Расеі спадар Сурыкаў, то мог бы пакрыўдзіцца за вольную трактоўку расейскага герба. Ён там зь сярпом і молатам...

АМ: Там як бы не зусім герб. Але мне падалося, што тая дзьвюхгаловая курыца абавязкова павінна быць зь сярпом і молатам, і чырвонай зоркай. У гэтай імпэрыі — раней Савецкім Саюзе, цяпер Расейскай Фэдэрацыі — тая ж самая ідэалёгія — пашыраць тэрыторыі, не лічыцца ні з кім. Як яны пра Ўкраіну гавораць? Што гэта не дзяржава, а прыдуманая бальшавікамі рэспубліка. Калі так гаворыцца пра ўкраінцаў, то што можна сказаць пра нас? Мы ж з Расеяй — «саюзная дзяржава»! Калі гэта так, то мы таксама ўдзельнічаем у гэтым канфлікце. Калі я пісаў «Навалу», то апіраўся і на выказваньні прэзыдэнта Беларусі, як гэта ні дзіўна, які не прызнае ні «ДНР», ні ўвогуле «Наварасію». Але цэнтральны вобраз карціны — перадусім Хрыстос, які кажа: «Даю вам запавет: любіце адзін аднаго». Запавет парушаецца тымі, хто падымае руку на братні народ, а гэта вялікі грэх. Што да магчымай крыўды... Вось мы кляймім нямецкі фашызм, але ж немцы за гэта не абражаюцца! То калі я паказаў ашчэр фашызму расейскага, чаго мусіць крыўдаваць расейскі народ? Тут трэба падзяляць.

МС: Але Аляксандар Лукашэнка, на выказваньні якога вы апіраліся, не вінаваціць у агрэсіі Расею. Паводле яго, у падзеях на паўднёвым усходзе Ўкраіны вінаватыя Майдан і Януковіч.

АМ: Давайце будзем разважаць папросту. Вось у вёсцы дзьве хаты. У адной жыве мой бацька Антон Марачкін, у другой — сусед Іван Драмок. І вось яны канфліктуюць. А нейкі бандыт зь лесу дае Івану Драмку зброю, нацкоўвае яго на Марачкіна. І — пачынаецца варажнеча і вайна. Пытаньне — хто ў гэтым вінаваты? Адказ — бандыт-падбухторшчык. Хто падбухторваў і працягвае падбухторваць сэпаратыстаў? Расея. Пуцін аднекваецца, але гэта проста фарысэйства. На Данеччыне чые танкі — амэрыканскія, беларускія, грузінскія? Там чыя зброя? І танкі, і зброя — расейскія. Хай сабе там не ваюе рэгулярная расейская армія. Але там ваююць бандыты, якія прайшлі падрыхтоўку ў Чачні, у іншых канфліктных кропках, і іх забясьпечвае зброяй Расея.

МС: *Затрыманьне ўдзельнікаў акцый на Крапівенскім полі пад Воршай стала ўжо сумнай традыцыяй. Сёлета гэтага не адбылося. Як вы лічыце — чаму?*

АМ: Таму што Ўкраіна адкрыла многім вочы на тое, чым ёсьць насамрэч расейская імпэрыя. Хто такі насамрэч — гэты наш сусед. Ён — агрэсар. Калі мы зьбіраемся на Крапівенскім полі, а нас улады затрымліваюць, — гэта недарэчнасьць. І паказальна, што сёлета абышлося бяз гэтага.

На тым полі Алесь Пушкін, Генадзь Драздоў, аршанскія мастакі ладзілі плэнэр, і на выставе прысутнічаюць творы з таго пленэру. Так што можна сказаць, наша выстава асьвечаная духам Аршанскай бітвы і яна закране душы гледачоў, я ў гэтым перакананы.

МС: *Самае знакамітае палатно «Аршанская бітва», напісанае невядомым мастаком у XVI стагодзьдзі, знаходзіцца сёньня ў Нацыянальным музэі Польшчы. На жаль, карціна ні разу не экспанавалася ў нас. А ці магчыма зрабіць зь яе копію, скажам, для Мастацкага музэю?*

АМ: Ідэя вельмі слушная, думаю, яе магчыма рэалізаваць. Я сам асабіста рабіў копіі партрэтаў для Музэю гісторыі Беларусі. Сапраўды — было б здорава. Там жа наша гісторыя, нашыя людзі. Мікола Купава падлічыў, што на той карціне каля сарака бел-чырвона-белых сьцягоў. Думаю, прыйдзе час, і копію можна будзе зрабіць. Тая «Аршанская бітва» павінна рэпрадукавацца на вокладках нашых падручнікаў па гісторыі.

МС: *Нядаўна на сустрэчы з расейскімі журналістамі кіраўнік Беларусі прызнаў, што Бранск і Смаленск — гэта беларускія землі. А віцэ-прэм'ер Тозік сказаў, што «страціць беларускую мову было б жахліва». Вы верыце ў тое, што беларуская ўлада нарэшце павернецца тварам да айчыннай гісторыі і культуры?*

АМ: Веру і ня веру — 50 на 50. Любы гісторык, у тым ліку расейскі, ведае, чые былі Смаленшчына, Браншчына ці Беласточчына. У мяне ёсьць мапа Расейскай імпэрыі, здаецца, 1910 году, дзе пазначаныя беларускія землі. Згодна зь ёю прыкладна 50% нашых земляў адышло да іншых краінаў. Мы маўчым. А трэба нагадваць. І калі Лукашэнка нагадаў, то правільна зрабіў. Але якой шкоды нарабіў ён і ягоная ўлада за прамінулыя 20 гадоў! Я сустракаюся зь дзеткамі, якія ходзяць у беларускі ліцэй, размаўляю зь імі па-беларуску, а яны — не разумеюць! Бо ў нас скрозь расейская мова. А родная мова, я лічу, мацней за атамную зброю. І беларусы павінны гэта ведаць. Менавіта па мове Расейская імпэрыя будзе вызначаць сваю тэрыторыю. І калі ўсе мы будзем гаварыць па-расейску, то нас забяруць голымі рукамі. Таму беларуская мова — гэта ня толькі культурніцкая зьява, што сьведчыць пра нашу ідэнтычнасьць, гэта яшчэ і наша зброя.

Крыніца: Праграма "Вольная студыя" беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода", svaboda.org.


# KRYVIJA

časopis běloruské menšiny
v České Republice

REDAKCE ČASOPISU:
Jurka Stankievič (1928-2014) (zakladatel)

---

Adam Kalita (šéfredaktor)

Kiryl Kascian (webredaktor)

Kontaktní adresa:
Časopis KRYVIJA
ul. 5 května 1043/32,
Praha 4, 140 00
Tel.: +420 773 276 535
e-mail: pahonia.info@gmail.com
www.thepointjournal.com
www.pahonia.cz

---

Калі ласка, дасылайце ў рэдакцыю свае паведамленні і фотаздымкі аб падзеях ці здарэннях. Найцікавейшыя зь іх будуць надрукаваныя ў нашым часопісе.

---

- četnost vydávání: 4 krát ročně
- místo vydávání: Praha
- číslo vydání: 34-35
- den vydání: 22. prosince 2014
- evidenční číslo přidělené Ministerstvem kultury České republiky: MK ČR E 16919
- název vydavatele: občanské sdružení PAHONIA
- sídlo vydavatele: ul. 5 května 1043/32, Praha 4, 140 00
- identifikační číslo (IČO) vydavatele: 27038491

---

Tento Časopis byl vydán za podpory Ministerstva kultury České republiky.

Dotační program: Podpora rozšiřování a přijímání informací v jazycích národnostních menšin, rok 2014.